Я. А. Пятровіч

# Адноўленая Беларусь



Выданьне Сэкратарыяту ЦВК. БССР.
МЕНСК
1926



ЛІТ. ПРАФШКОЛЫ



Я. А. ПЯТРОВІЧ

# АДНОЎЛЕНАЯ БЕЛАРУСЬ



ВЫДАНЬНЕ СЭКРАТАРЫЯТУ ЦВК БССР

МЕНСК — 1925



# Беларуская С. С. Р.

## Агульныя даныя.

**Утварэньне Б. С. С. Р.** Беларуская Савецкая Соцыялістычная Рэспубліка нараджалася пры вельмі цяжкіх умовах як палітычнага, гэтак і экономічнага характару. Кастрычнікаўская Рэволюцыя 1917 году, напісаўшая на сваіх штандартах роўнасьць усіх нацыянальнасьцяй і самавызначэньне народаў, адбывалася ў Беларусі ва ўмовах прыфрантовага палажэньня. Гэтае палажэньне, з аднаго боку, было вельмі выгадным для замацаваньня посьпехаў соцыяльнай рэволюцыі, бо армія зьяўлялася тым рэзэрвуарам, у якім былі абасяродкаваны агромністыя рэволюцыйныя сілы; з другога-ж боку, непасрэдная блізіня фронту і ўсё яшчэ значная магутнасьць нямецкага імпэрыялізму—пагражалі заваёвам Кастрычніка.

Кастрычнікаўская Рэволюцыя ў межах сучаснай БССР палучыла сваё завяршэньне толькі ў другой палове кастрычніка 1917 году, калі напружаньнем рэволюцыйных сіл арміі і пролетарыяту ўтварыўся ў Менску Выканаўчы Камітэт Рабочых, Салдацкіх і Сялянскіх Дэпутатаў Заходняй Вобласьці і Фронту, улада якога пашыралася на Магілёўскую і неокупаваныя часткі Віцебскай, Менскай і Віленскай губэрняў. Выканаўчым Камітэтам быў вылучан Савет Народных Камісараў Заходняй Вобласьці і Фронту.

Аднак дзейнасьць Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Заходняй Вобласьці і Фронту была ў Менску вельмі нядоўгая. Нягледзячы на мірную політыку і цьвёрдае намярэньне Савецкай улады супыніць вайну, нямецкае камандаваньне ў лютым 1918 году выдала загад аб наступленьні: 25 лютага г. Менск занялі нямецкія войскі. Неўзабаве была окупавана імі амаль уся Беларусь аж да самай ракі Нядро. Нямецкая окупацыя на Беларусі зацягнулася да лістапада месяца 1918 г.

Лістападаўская Рэволюцыя 1918 году ў Нямеччыне выклікала хуткую ліквідацыю ўсходняга нямецкага фронту. К канцу сьнежаня 1918 году беларускія тэрыторыі былі пакінуты немцамі. Беларусь стала свабоднай. Політычнымі партыямі і організацыямі ствараецца Часовы Рабоча-Сялянскі Ўрад, які ў сваім

маніфэсьце ад 1 студзеня 1919 году агалашае Беларусь самастойнай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікай, агалашае аб скасаваньні ўлады і законаў, выданых як нямецкімі окупантамі, гэтак і Радай Беларускае Народнае Рэспублікі і ўстанаўляе ўладу Саветаў Рабочых, Сялянскіх, Батрацкіх і Чырвонаармейскіх Дэпутатаў. Дзень 1-га лютага 1919 году зьяўляецца, такім чынам, тым днём, калі Беларусь адрадзілася, як Савецкая Соцыялістычная Рэспубліка.

**Пэрыод Літоўска-Беларускай С.С.Р. і вайны з Польшчай.** 3 лютага 1919 году быў склікан у Менску Першы Ўсебеларускі Зьезд Саветаў, якому Часовы Рабоча-Сялянскі Ўрад БССР перадаў свае поўнамоцтвы. Гэты зьезд вызначыў констытуцыю Рэспублікі і ў сваёй дэкларацыі ўстанавіў формы дзяржаўнай сувязі паміж БССР і РСФСР, як паміж незалежных Савецкіх рэспублік. Усерасійскім Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам 5 лютага 1919 году была выдана пастанова аб прызнаньні назалежнасьці Беларускай ССР. Першы-ж Зьезд Саветаў прыняў і рашэньне аб неабходнасьці аб'яднаньня Савецкай Беларусі з Савецкай Літвой і ўваходзе аб'яднанай Літоўска-Беларускай ССР у склад Расійскай Савецкай Фэдэрацыі.

Пасьля Зьезду Саветаў ў Літве, які быў скліканы 18 лютага 1919 г. і які таксама прыняў пастанову аб злучэньні з Савецкай Беларусьсю, 27 лютага ў г. Вільні сабраліся Цэнтральныя Выканаўчыя Камітэты Саветаў Літвы і Беларусі. Агаласіўшы ўтварэньне Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі Літвы і Беларусі, Выканаўчыя Камітэты выбралі свой супольны прэзыдыум і Савет Народных Камісараў.

Урад аб'яднанай Літоўска-Беларускай ССР узяўся за работу ў надзвычайна цяжкіх умовах разбурэньня. Толькі што вызваленая з-пад нямецкай окупацыі краіна, з шырокай паласой нашчэнт зруйнованых і зьнішчаных абласьцей, уздоўж ранейшых расійска-нямецкіх умацаваных позыцый, патрабавала аднаўленьня ўсіх галін гаспадаркі, патрабавала затраты агромністых сродкаў і працы. Урад пачаў энэргічную работу па асяленьні масаў уцекачоў, якія к таму часу пачалі ворочацца на сваю радзіму, па аднаўленьні спаленых і разбураных сёл, мястэчак і гарадоў, па ўпарадкаваньні сельскай гаспадаркі і прамысловасьці.

Гэтае мірнае будаўніцтва толькі што ўтворанай Рэспублікі было, аднак, хутка перарвана вонкавай сілай. Узьніклая ў выніку Кастрычнікаўскай Рэволюцыі ў Расіі і Лістападаўскай (1918 г.)—у Нямеччыне, Польская рэспубліка перайшла ў стан ворагаў Савецкіх Рэспублік і вясною 1919 году пачала вайну супроць Літоўска-Беларускай ССР. І вось 22 красавіка 1919 г. польскія лягіёны захапілі г. Вільню, а 8 жніўня—г. Менск.

Пасоўваючыся далей на ўсход, польскія войскі неўзабаве займаюць усю Літву і частку Беларусі да р. Бярэзіны (Няпроўскай). Такім чынам, амаль ўся тэрыторыя БССР, вызначаная пры ўтварэньні ССР Літвы і Беларусі, была зноў окупавана, на гэты раз палякамі.

Пад окупацыяй Польшчы БССР знаходзілася да 11 ліпеня 1920 году, калі сіламі Чырвонай Арміі і рэволюцыйных рабочых і селян Беларусі сталіца апошняй—г. Менск быў адабраны ад палякоў. З рухам Чырвонай Арміі ўпярод, тэрыторыя Беларускай ССР пашыралася і амаль супала з этнографічнымі межамі Беларусі на захадзе. Ваенная няўдача пад Варшавай зноў звузіла тэрыторыю БССР. Паводле Рыскага ўгавору 1921 году паміж Савецкіх Рэспублік і Польшчай ад БССР адышла ўся Заходняя Беларусь у складзе Горадзенскай, Віленскай і двох паветаў Менскай губ. (Пінскага і Навагрудзкага) з часткамі Мазырскага, Слуцкага і Менскага. Такім парадкам, Беларуская ССР засталася ў складзе шасьцёх няпоўных паветаў ранейшай Менскай губэрні.

1-га жніўня 1920 году імянем паўстаўшых рабочых і сялян зноў была агалошана незалежная Савецкая Соцыялістычная Рэспубліка Беларусі, і да скліканьня Зьезду Саветаў улада была перадана Ваенна-Рэволюцыйнаму Камітэту з 5-ёх асоб. У другой палове сьнежня 1920 году адбыўся Другі Ўсебеларускі Зьезд Саветаў, ад часу якога і пачалося мірнае савецкае і гаспадарчае будаўніцтва Рэспублікі.

**Адміністрац.-тэрыторыяльн. склад БССР.** Другі Зьезд Саветаў БССР, пры поўным усьведамленьні тэй ахвяры, якую рабіла Беларусь для прыпыненьня вайны, згадзіўся на папярэднія ўмовы міру з Польшчай, якой падпадала Заходняя Беларусь. Савецкая Беларусь, як самастойная рэспубліка, засталася ў складзе толькі Барысаўскага, Бабруйскага, Ігуменскага і абкроеных на захадзе Менскага, Слуцкага і Мазырскага паветаў ранейшай Менскай губэрні. Агульная плошча рэспублікі мела тады 45.969 квадр. вёрст, з насельнасьцю ў 1,5 міл. чалавек.

Па сканчэньні барацьбы на вонкавых франтох і з пераходам на паглыбленае соцыялістычнае будаўніцтва, Саюз Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік, роўнапраўным членам якога стала БССР, паставіў аднэй з асноўных сваіх задач—умацаваньне нанова створаных, паводле нацыянальнай адзнакі, Савецкіх Рэспублік. У разьвіцьцё гэтага прынцыпу была пастаўлена задача экономічнага ўмацаваньня БССР, як нацыянальнай Рэспублікі. З прычыны свае тэрыторыі, малога ліку насельнасьці, а таксама нястачы прыродных рэсурсаў, Беларуская ССР у складзе шасьцёх паветаў ня мела шырокіх пэрспэктыў для разьвіцьця. З мэтай умацаваньня БССР, як самастойнай Савецкай Рэспублікі,

патрэбна было павялічыць яе тэрыторыяльна. Губэрні РСФСР, якія непасрэдна прытыкаліся к Беларускай ССР (ран. Мегілёўская і Віцебская) і складалі з апошняй адну прыродную вобласьць, як паводле нацыянальнага складу насельнасьці, гэтак і паводле будовы гаспадаркі, зьявіліся тымі тэрыторыямі, за рахунак якіх і была пашырана БССР. Зьезды Саветаў Гомельскай, Смаленскай і Віцебскай губэрняў яшчэ ў канцы 1923 году прынялі рашэньні аб аб'яднаньні з БССР тых частак гэтых губэрняў, якія залюднены пераважна беларусамі. Пяты Ўсебеларускі Зьезд Саветаў, які адбыўся ў студзені 1924 году прывітаў гэтыя рашэньні Губэрскіх Зьездаў Саветаў і даручыў Ураду падгатаваць пытаньне аб аб'яднаньні БССР з часткамі належных губэрняў пасьля таго, як рашэньні гэтых Губэрскіх Зьездаў Саветаў будуць адобраны Ўрадам СССР і РСФСР. 4-га лютага 1924 году Ўсерасійскі Цэнтральны Выканаўчы Камітэт выдаў пастанову аб перадачы БССР са свайго складу ранейшай Віцебскай губэрні—паветаў: Віцебскага, Гарадоцкага, Дрысенскага, Лепельскага, Аршанскага, Полацкага, Сеньненскага і Сураскага па граніцах дарэволюцыйнага адміністрацыйнага падзелу; са складу Гомельскай губэрні перадаваліся БССР паветы: Магілёўскі, Рагачоўскі, Быхаўскі, Клімавіцкі, Чэрыкаўскі, Чавускі і сем валасьцей з часткамі трох Рэчыцкага павету; ад Смаленскай губэрні к БССР адышлі—Горацкі і чатыры воласьці з часткамі трох Мсьціслаўскага павету. Пастанова Ўсерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту была падмацована дэклярацыяй Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

Гэтымі законадаўчымі актамі, а таксама пастановаю VI Усебеларускага Надзвычайнага Зьезду Саветаў, тэрыторыя БССР была павялічана да 96.448 квадр. вёрст, або 110 тыс. квадр. кілёмэтраў. На гэтай тэрыторыі ў момант пашырэньня налічвалася 4.172 тыс. чалавек.

Адразу-ж пасьля пашырэньня Рэспублікі паднялося пытаньне аб яе раёнаваньні. Агульная патрэба ў раёнаваньні павялічвалася яшчэ тым, што, з далучэньнем новых адміністрацыйных адзінак, палучалася крайняя пстрыкатасьць іх складу. У частках Гомельскай і Віцебскай губэрняў, адышоўшых к БССР, ужо раней было зроблена пашырэньне валасьцей і ліквідацыя некаторых паветаў; паветы-ж ранейшай БССР, а таксама часткі, адышоўшыя к БССР ад Смаленскай губэрні, мелі даваенны паваласны падзел, а паветы Віцебшчыны ядналіся губэрскім цэнтрам—адзіным у новай БССР. Усе гэтыя акалічнасьці прымусілі прысьпешыць раёнаваньне. Яно было зроблена ў працягу летніх месяцаў 1924 году і ў выніку яго ўся рэспубліка была падзелена на 10 акругаў, 100 раёнаў і 1.202 сельсаветы. Пазьней было зроблена ўдасканаленьне граніц нанова ўтвораных адміністрацыйных адзінак, утварэньне новых сельсаветаў, скаса-

ваньне некаторых з іх і часьцiннае перанясеньне іх цэнтраў.

У пачатку 1926 году адміністрацыйны падзел і тэрыторыяльны склад БССР мелі такі выгляд:

| НАЗВА АКРУГАЎ | Лік раёнаў у вакрузе | Лік сельсаветаў у вакрузе | Тэрыторыя акругі ў кв. кілёмэтрах |
|---|---|---|---|
| Аршанская | 10 | 110 | 7.876 |
| Бабруйская | 12 | 153 | 14.256 |
| Барысаўская | 9 | 108 | 11.974 |
| Віцебская | 12 | 132 | 11.382 |
| Калінінская | 10 | 127 | 8.589 |
| Магілёўская | 10 | 162 | 11.602 |
| Мазырская | 10 | 117 | 15.000 |
| Менская | 11 | 128 | 11.047 |
| Полацкая | 9 | 99 | 9.476 |
| Слуцкая | 7 | 93 | 8.748 |
| Усяго | 100 | 1.229 | 109.950 |

У сярэднім на кожную акругу прыпадае 11 тыс. квадратных кілёмэтраў, на раён — 1,1 тыс. квадр. клм. і на сельсавет — 89,5 квадр. клм. тэрыторыі.

**Фізычна-геаграфічная і прыродн.-гістарычная характарыстыка БССР.** Беларуская ССР мяжуецца на захадзе з Польшчай (каля 500 клм.) і Латвіяй (граніца да 60 клм.), на паўночным усходзе і ўсходзе — з РСФСР, на паўдзённым усходзе і поўдні — з РСФСР, УССР. Займаючы найбольш заходняе палажэньне ў Саюзе ССР, Беларуская ССР мае найбольш выгаднае палажэньне ў дачыненьні да клімату. Сярэдняя гадавая тэмпэратура роўна $+6^0$, сярэдняя тэмпэратура студзеня — $6{,}5^0$, а ліпеня $+18{,}5^0$. Такім чынам, БССР належыць да ліку краін з мерным клiматам бяз моцнай зімы і сьпякотнага лета. Блізіня к Балтыцкаму мору адбіваецца таксама і на колькасьці паветраных ападкаў, якіх выпадае ў БССР у сярэднім каля 550 млм. у год; найбольш

ападкаў бывае ў паўночна-заходняй частцы (Наддзьвіньне—600 млм.), а найменш усяго іх бывае на паўдзённым усходзе (480—500 млм.). У некаторых мясцох багацьце паветраных ападкаў на кепскіх глебах шкодзіць росту збожжа; гэтакую-ж ролю мае і недахоп ападкаў на пескаваных глебах (Мазырская акруга). Але, наогул, пры сярэдняй колькасьці ападкаў у 500—600 млм. Беларусі не даводзіцца спрабоўваць такіх няшчасьцаў, якія выпадаюць на долю больш ўсходніх раёнаў Саюзу ССР, як сухмені.

Паверхня БССР раўнінная, найбольш пагорыстая на паўночным захадзе—у Віцебскай, Барысаўскай і Менскай акругах. На паўдзённы ўсход паверхня паступова зьніжаецца, пераходзячы ў балацяную нізіну Палесься. У сярэднім БССР узьнята на 160—180 мэтраў над роўнем мора, нізіны—на 100—150 мэтраў, узвышшы—на 200—250 мэтраў; асобные вяршыны ўзвышшаў дасягаюць да 343 мэтраў (Лысая гара на поўнач ад Менска). З узвышшаў неабходна адзначыць: Менскае ўзгор'е, якое ідзе з паўночнага ўсходу на паўдзённы захад і падзяляе вадазборы Няпра і Нёмна; Віцебска-Невільскую граду, якая аддзяляе вадазбор Заходняй Дзьвіны ад рэк Вазёрнай вобласьці РСФСР і Няпроўскае ўзвышша, якое ідзе ў кірунку ад Воршы на Мсьціслаў і, заходзячы далей на ўсход, вызначае паўдзённы кірунак утокаў Няпра (Бярэзіны, Сожа і інш.).

Беларусь багата на рэкі. Усе яны належаць дзьвём сыстэмам—Чорнага і Балтыцкага мораў. Да сыстэмы Чорнага мора належыць магутная водная артэрыя Няпро з вялікай колькасьцю яго ўтокаў, з якіх найбольш значнымі зьяўляюцца: з правага боку—Друць, Бярэзіна, Прыпяць, а з левага—Сож. Да сыстэмы Балтыцкага мора належаць Нёман і Заходняя Дзьвіна з утокамі: Полата і Дрыса—з правага боку і Межа, Каспля, Ула і Дзісенка—з левага.

Рэкі Беларусі, праходзячы па вельмі нязначна нахіленай раўніне, маюць павольную плынь, чым абумоўліваецца балацянасьць вялікай колькасьці іх нізін (Бярэзіна, Прыпяць). Іншыя рэкі, як Заходняя Дзьвіна, цякуць па паверхні марэннага характару, маюць вельмі нятрывалыя фарватэры, часта перасьцігаюцца градамі валунаў, якія вытвараюць парогі. Гэтыя акалічнасьці перашкаджаюць разьвіцьцю судаходзтва нават на больш магутных рэках (Кабеляцкія парогі на Няпры). Але блізіня паміж вытокаў рэк розных вадазбороў можа быць скарыстана для злучэньня іх каналамі: ужо даўно быў злучан Няпро з Заходняй Дзьвіной Бярэзінскім каналам; у даваенны час проэктавалася злучыць Заходнюю Дзьвіну цераз раку Абольканалам з ракой Лавацьцю—і далей з сыстэмай вазёр паўночна-заходняга раёну РСФРС.

Кліматычныя і геолёгічныя ўмовы спрыяюць таксама і ўтварэньню вазёр. Вазёры БССР належаць да двух тыпаў—марэн-

нага і палескага. Першыя знаходзяцца на поўначы (Полацкая і Віцебская акругі). Асабліва багаты на вазёры раён паміж гарадоў Полацак і Лепель, дзе марэнных вазёр налічваецца шмат дзесяткаў. Некаторыя з вазёр Наддзьвіньня займаюць даволі вялікія плошчы: Асьвея—57 квадр. клм., Няшчэдра—34,9 квадр. клм. Паўдзённыя палескія вазёры амаль усюды акружаны балацянымі прасторамі, часта зусім непраходнымі. Да ліку такіх вазёр можна залічыць возера Князь (47 кв. клм.), якое ляжыць ў самым глухім кутку Палесься (Мазырская акруга) і акружана агромністымі балотамі.

Што дачыняецца балот, то яны займаюць у БССР каля 10%, усяе паверхні, а ўсе забалочаныя прасторы, наогул, дасягаюць да 15%. На поўначы пераважаюць сфагнавыя (мохавыя) балоты, а на поўдні—травяныя. Сярод балот асабліва значны балоты ў раёне воз. Князь, а таксама ў Аршанскай акрузе—Верацейскае (325 клм. удаўжкі). Шмат якія з балот багаты на залежы ўпаўне добрага торфу.

Багацьце вільгаці і мерная тэмпэратура ствараюць спагадныя ўмовы для разьвіцьця лясной і травяной расьліннасьці. Яшчэ гадоў 30 перад гэтым, лясы займалі да 40% усяе паверхні; цяпер плошча іх зьменшылася да 25% к агульнай плошчы рэспублікі. Сенажатныя-ж прасторы, наадварот, усё павялічваюцца.

Найбольш звычайнымі глебамі ў БССР зьяўляюцца сугліняныя, супесчаныя і пясчаныя. Усе гэтыя віды глебаў патрабуюць напружанай апрацоўкі і ўгнаеньня, без чаго зямляробства амаль немажліва.

Карысных выкапняў у БССР мала. У іх лік можна залічыць г л і н ы, галоўным чынам, чырвоныя. Вапняк сустракаецца ў БССР усюды; асабліва вялікія залежы яго каля гор. Воршы. Таксама, даволі часта, сустракаюцца адклады крэйды (каля мяст. Койданова, Менскай акр.). У вапошні час знойдзены па р. Сожы фосфарыты—у Калінінскай акрузе. У балотах і балотных вазёрах часта сустракаецца залезная руда, але распрацоўка яе, аднак, дасюль рабілася рэдка. У шмат якіх мясцох знойдзен каменны вугаль, пераважна лігніт-руды сорт. Узвышшы рэспублікі шмат дзе маюць мінэральныя крыніцы, найчасьцей серка-залезавыя. Будучы раскіданы па глухіх кутках, яны зусім невыкарыстоўваюцца.

**Насельнасьць.** Насельнасьць БССР, паводле вылічэньня на 1 жніўня 1925 году, складае 4.254 тысячы чалавек. Шчыльнасьць залюдненьня на адным квадрат. клм. ў сярэднім дасягае 38,7 чал. З Саюзных Савецкіх Рэспублік толькі Украіна мае гусьцейшую за БССР шчыльнасьць насельнасьці. Паселішчы БССР разьбіваюцца на наступныя катэгорыі: гарадоў—25, паселішч гарадзкога тыпу (мястэчак)—49, сельскіх—30.859.

Гарадзкая насельнасьць разам з местачковаю складае 631.812 ч., сельская—3.622.500 чал. Такім парадкам, гарадзкая насельнасьць складае ўсяго 14,9 % агульнага ліку насельнасьці рэспублікі.

Гарады і мястэчкі БССР пераважна залюднены яўрэямі, якія складаюць 44,1% агульнага ліку іх жыхароў. У сельскіх мясцовасьцях жывуць, галоўным чынам, беларусы, якія складаюць 75,8% усяе сельскае насельнасьці. Велікарусы і ўкраінцы складаюць: у гарадох—10,6%, а ў сельскіх мясцовасьцях—16,3%; палякі-ж маюць аднолькавую ўдзельную вагу як у горадзе, гэтак і ў сяле—2%. У абсолютных велічынях склад насельнасьці БССР характарызуецца наступнымі данымі:

| | Беларусы | Велікарусы і ўкраінцы | Яўрэі | Палякі | Іншыя | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Сельская насельнасьць . . . | 2.747.231 | 589.067 | 190.132 | 74.020 | 22.050 | 3.622.500 |
| Гарадзкая насельнасьць . . . | 257.535 | 67.304 | 278.560 | 15.713 | 12.700 | 631.812 |
| Усяго . | 3.004.766 | 656.371 | 468.692 | 89.733 | 34.750 | 4.254.312 |

Натуральны прырост насельнасьці ў даваенны час выражаўся ў сярэднім ў 1,8—2% у год; за апошнія-ж годы ён значна павялічыўся. Так прырост на 1.000 душ насельнасьці складаў:

| | У акружных гарадох | У іншых мясцовасьцях | Усяго |
|---|---|---|---|
| У 1923 годзе . . . . . | 21,7 | 24,3 | 24,1 |
| „ 1924 „ . . . . . | 17,7 | 24,3 | 23,7 |
| „ 1925 „ (1 палова) . | 12,8 | 11,3 | 11,5 |

Нараджэньне параўнальна з даваенным часам павялічылася вельмі значна і разам з гэтым зьменшылася сьмяротнасьць дзяцей. Гэтыя акалічнасьці ў значнай ступені залежаць ад зьмяніўшыхся ў лепшы бок экономічна-соцыяльных умоў працоўнае насельнасьці.

Беларусы, якія складаюць асноўнае асяродзьдзе насельнасьці БССР, належаць да старадаўніх жыхароў краіны. Розныя славянскія пляменьні (крывічы, дрыгавічы, драўляне, севяране і радзімічы) з VII па канец X сталецьця, прасоўваючыся з поўдня ўздож Няпра, аселі на берагох рэк Заходняй Дзьвіны, Прыпяці, Верхняга Няпра і Сожа і пазьней утварылі некалькі княстваў (Полацкае, Тураўскае, Смаленскае і гэт. д.). Гэтыя пляменьні і зьявіліся роданачальнікамі сучасных беларусоў.

З разьвіцьцём і паступовым умацаваньнем на захадзе ад гэтых пляменьняў літоўцаў і ўтварэньнем дужага Літоўскага княства пачалося ўзаемнае праніканьне насельнасьці суседніх зямель і ўплывы іх ў культурна-бытавым дачыненьні. У часы Вітаўта цераз Польшчу і Нямеччыну сталі праходзіць і асядаць яўрэі, выбіраючы месцам пражыцьця найчасьцей месты (гарады). З часу Люблінскай вуніі Польшчы з Літвой (1569 год) на землях, якія былі заняты беларусамі, сталі паступова асядаць палякі. Гэтае асадніцтва мела з пачатку характар надзяленьня, з боку польскіх каралёў, сваіх магнатаў буйнымі маёнткамі, а затым сталі перасельвацца сюды „служылыя людзі“ і „хлопы“. Польскаму асадніцтву найбольш падабаліся заходнія часткі Беларусі (Гародзеншчына і Віленшчына), дзе к 1897 году налічвалася да 10% палякоў. Наогул, на ўсёй-жа Беларусі, паводле попісу 1897 году, было ўсяго 4% палякоў.

Асадніцтва Беларусі велікарусамі было найбольш позным. Яно пачалося з часу старавераў, уцякаўшых ад рэлігійных ганеньняў Маскоўскага ўраду ў XVII і XVIII сталецьцях у найбольш глухія месцы. З падзелам Польшчы і пераходам беларускіх зямель к Расіі, велікарусы прасочваліся ў гэтую краіну ў якасьці служылага элементу, а таксама ў якасьці перасяленцаўсялян, асабліва ва ўсходнія часткі.

Апрача адзначаных народнасьцяй, шмат дзе ў Беларусі можна стрэць татар, якія яшчэ ня страцілі канчальна сваіх нацыянальных асаблівасьцяй. Запрошаныя кн. Вітаўтам на ваенную службу, продкі сучасных мясцовых татар аселі, галоўным чынам, у прыгарадах, дзе іх патомкі і да гэтага часу жывуць поўгарадзкім жыцьцём.

Але засяленьне Беларусі прышлымі элемэнтамі нідзе ня мела асабліва шырокага характару. Параўнальна, вялікая шчыльнасьць насельнасьці не давала мажлівасьці для значнага прасочваньня прышлых, датаго скупасьць прыродных багацьцяў не дакляравала асаблівых дагодаў перасяленцам. Наадварот, залюдненьне дагодных зямель ужо з даўніх пор, зямельная цесната, з прычыны значнай забалочанасьці краіны, вытваралі з беларуса і яўрэя, сьцісьненых у сяле і мястэчку, асаднікаў іншых краін. Беларускае сялянства, незаможнае з прычыны беззямельля, шукала выйсьця лішкам рабочай сілы ў перасяленьні як у іншыя часткі Расіі, гэтак і за яе межы. Перасяленьне адбывалася пераважна

ў Сібір і Дальні ўсход, дзе ўтвараліся цэлыя беларускія па
селішчы. Значная частка мужчынскае насельнасьці ішла ў ра
сійскія прамысловыя цэнтры і выяжджала ў Амэрыку. Яўрэйска
насельнасьць, моцна сьцісьненая „мяжой аселасьці“ і прымушана
поўгаладаваць у шматлікіх мястэчках, масамі кідала наседжаны
месцы і таксама зьбягала ў Амэрыку.

Такім парадкам, у вапошнія дзесяцілецьці царызму, Беларус
зьяўлялася адным з раёнаў, адкуль выліваліся лішняя сіла, адкул
выходзілі ўсё новыя і новыя хвалі асаднікаў шырачэзнай Сібіры

**Этапы гісторыі Беларусі да 1917 году.** На землях, заселеных славянскімі пляменьнямі
па р. р. Верхнім Няпры, Заходняй Дзьвіне
Прыпяці ў часе X—XIII сталецьцяў утварылісь
дужыя княствы: Полацкае з гарадамі Полацкам
Віцебскам і Менскам, Турава-Пінскае і Смаленскае. Дзякуючы
спагаднаму палажэньню на гандлёвым шляху на захад, Пола
кае і Смаленскае княствы хутка разьвіваліся экономічна і кул
турна. Але амаль бесперастанныя войны як паміж сябе, гэта
і з Кіеўскімі князямі зьнясільвалі Полацкую і Тураўскую зем
Загэтым, з утварэньнем у першай палове XIV сталецьця дужа
Літоўскага княства (часы Гэдэміна), беларускія землі паступ
трацяць сваю палітычную самастойнасьць. К 1341 году ўс
значныя гарады беларускіх зямель ужо былі пад уладай л
тоўскіх князёў. Са зьлітых пад уладаю аднаго князяземл
утварылася адзінае Літоўска-Беларускае Вялікае Княства. З
бясьпечваючы ўплыў беларускіх магнатаў на кіраваньне, ла
Літоўска-Беларускага княства паступова зьнішчаў вольнась
сялянства, рабочыя і рамесьнікі паступова рабіліся „рабамі
З 1401 году пачынаецца кругабег вуній Літвы з Польшчай, як
канчаецца Люблінскай вуніяй 1569 году, паводле якой Літоўск
Беларускае княства злучаецца з Польшчай пад уладай адна
„гаспадара“. З гэтага часу ў аб'яднанай дзяржаве пачынаецц
поўны росквіт панаваньня шляхты, якая палучыла неабмежаван
прывілеі палітычныя і маемасныя; з гэтага часу пачынаецц
асабліва пышны росквіт паншчыны і фэадалізму з прыгона
беларускай нацыянальнасьці. Пасьля зацяглая амаль двохвяков
барацьба паміж Масквой і Польшчай надзвычайна зьнясілі
Беларусь, якая ўвесь час была „полем брани“ паміж магутны
спаборнікаў.

Палітычны развал Польшчы ў XVIII сталецьці, якому сп
дарожнічалі заняпад шматлікай шляхты, зьбядненьне даведз
нага да рабскага становішча сялянства, крайняе абгастрэны
рэлігійнай барацьбы, кончыўся падзеламі Польшчы (апош
ў 1796 годзе), пасьля якіх яна ўжо не існавала як самастойн
дзяржава. Паводле гэтых падзелаў, усе беларускія землі адыш
к Расійскай імпэрыі і былі пабіты на губэрні з прыстасаван
нем да іх тых праўных норм, якія ў той час існавалі ў Рас

Ўрады расійскіх імпэратараў разглядалі беларускія губэрні, як акрайныя, і загэтым усімі способамі дамагаліся найскарэй русіфікаваць краіну, зьнішчаючы разам са сьлядамі ранейшага польскага панаваньня, самабытную культуру Беларусі. У сваім змаганьні з палёнізмам царскі ўрад калі-ні-калі спрабоўваў залучыць на свой бок беларускае сялянства, запрыгоненае панамі, сярод якіх больш значную частку складамі палякі. Распрыгоненьне сялян з паншчыны зроблена было ў беларускіх губэрнях раней, чымся ў іншых мясцовасцях Расіі, бо напярэдадні польскага паўстаньня 1863 году царскі ўрад хацеў мець на сваім баку сялян. Пасьля распрыгоненьня, калі вынікі абдзяленьня сялянства зямлёй сталі відавочнымі і калі пачаў выяўляцца рэволюцыйны рух, політыка ўраду накіравалася на падзел насельнасьці краіны на варожыя станы на грунце нацыянальнай і рэлігійнай розьніцы. Такая політыка адбывалася аж да рэволюцыі 1917 году.

Вайна 1914-1917 год з Нямеччынай разарвала этнографічную Беларусь напал, прынесла нязьлічоныя напасьці беларускім рабочым і сялянам, зьнішчыўшы шмат сёл і гарадоў, разбурыўшы тысячы гаспадарак, прагнаўшы не адзін мільён насельнасьці з роднай зямлі. Гэтыя напасьці загоены Савецкай Беларусьсю, але застаюцца цяжарным каменем, які вісіць над Заходняй Беларусьсю.

## Экономічнае становішча Беларускае ССР.

**Агульная характарыстыка.** Беларуская ССР, нягледячы на неспагадную глебу, належыць да ліку тыповых сельска-гаспадарчых краін. Гарадзкая насельнасьць складае ў ёй толькі 14,9 % усяе насельнасьці; але гэты процант значна зьменшыцца, калі вылічыць з ліку гарадзкое насельнасьці жыхароў гарадоў і асабліва мястэчак, якія займаюцца сельска-гаспадарчай дзейнасьцю. Фабрычна-заводзкая прамысловасьць БССР мае сярэдні характар паводле вялічыні вырабу і вельмі шчыльна сточана з сельскай і лесавай гаспадаркай. Разьвіцьцё прамысловых прадпрыемстваў сярэдняга тыпу пачалося ў Беларусі даволі позна, чаму к моманту рэволюцыі тут захаваліся значныя кадры рамесьнікаў і саматужнікаў, вырабамі якіх абслугоўвалася, галоўным чынам, дарэволюцыйнае сяло. Агароджаная „мяжой аселасьці“ яўрэйская насельнасьць, апрача рамесьніцтва, займалася яшчэ гандлем. Шматлікія мястэчкі зьяўляліся тэй сеткай гандлёвых пунктаў, праз якія ішоў абмен паміж горадам і сялом. Палажэньне-ж краіны на шляхох, якія вядуць на захад, спрыяла разьвіцьцю замежнага гандлю, які, ў сваю чаргу, рабіў уплыў на кірунак асноўных галін гаспадаркі краіны (узмоцненая жывёлагадоўля,

выкарыстаньне лясоў і гэт. д.). Гэты грунтоўны характар экономікі краіны захаваўся і ў пасьлярэволюцыйны час, хоць політычныя ўзаемаадносіны і зьмянілі ў значнай ступені ранейшыя кірункі экономічнага цяжаньня.

**Сельская гаспадарка.** Уся зямельная плошча БССР паводле даных попісу 1917 году разьмяркоўваецца на наступныя ўдоб'і ў такім парадку:

| УДОБ'І | ПЛОШЧА | | %% адносіны да ўсяе зямельнае плошчы |
|---|---|---|---|
| | У дзесяцінах | У гэктарах | |
| Сядзіба . . . . . . | 201.336 | 219.960 | 2,1 |
| Пахань . . . . . . | 3.137.866 | 3.428.118 | 33,0 |
| Сенажаць . . . . . . | 1.437.331 | 1.570.284 | 15,1 |
| Лес і парасьля . . . | 2.874.109 | 3.139.964 | 30,3 |
| Выган і інш. удобныя землі . . . . . | 394.543 | 431.037 | 4,2 |
| Неразьмяркованай на удоб'і . . . . . | 480.362 | 524.795 | 5,0 |
| Усяго ўдобнай . . | 8.525.547 | 9.314.158 | 89,7 |
| Няўдобнай . . . | 975.178 | 1.065.389 | 10,3 |
| Усяе зямлі . . | 9.500.725 | 10.379.547 | 100 |

За восем год, з часу попісу 1917 году, у плошчах асобных удоб'яў адбыліся значныя зьмены, падобныя да зьмен, якія адбываліся і да рэволюцыі. Зямельная перазалюдненасьць (на 100 дзесяц. удобнай сельска-гаспадарчай плошчы прыпадае ў БССР 69,6 чал. сельскае насельнасьці) адчувалася ўжо даўно, чаму за некалькі дзесяцілецьцяў да рэволюцыі 1917 году пачаў выяўляцца процэс пашырэньня плошчы сельска-гаспадарчых удоб'яў за рахунак лесавай плошчы і няўдобных зямель. Так с 1887 да 1917 г. плошча пахані з 2.557.988 дзес. вырасла да 3.137.865 дзесяц., або на 22,7%; плошча сенажацяй—з 776.848 дзесяц. да 1.437.331 дзесяц. (на 85%); плошча лясоў і няўдобных зямель, наадварот зьменшылася: першых—на

21,3%, а апошніх—на 39,8%. Суадносіны асобных відаў ўдоб'яў да агульнай зямельнай плошчы былі:

| | у 1887 годзе | у 1917 годзе |
|---|---|---|
| Сядзібы | 2,2 % | 2,1 % |
| Пахані | 27,5 " | 33,0 " |
| Сенажаці | 8,4 " | 15,1 " |
| Выгану | 3,1 " | 4,1 " |
| Лесу і порaслі | 39,2 " | 30,3 " |
| Неразьмяркованай на ўдоб'і | 2,1 " | 5,1 " |
| Няўдобнай | 17,5 " | 10,3 " |
| Усяе | 100 % | 100 % |

Пасьля рэволюцыі 1917 году процэс пераводу адных удоб'яў у другія яшчэ болей узмацніўся. Асабліва значна скараціласся за годы рэволюцыі лесавая плошча: удобная, занятая лесам плошча складае толькі 2.360.523дзес. (к канцу 1925 году). Роўным чынам адбываецца далейшае скарачэньне няўдобных зямель, плошча якіх зьмяншаецца шляхам мэліорацыі: на адзін 1924—25 г. было ахоплена мэліорацыйнымі (асушальнымі) работамі 31.553,55 гэкт. Меліорацыйныя работы будуць пашыраць фонд удобных зямель, бо Урадам БССР пастаўлена задача ў працягу 15 г. зрабіць поўную асушку балот і забалочаных прастораў, якіх налічваецца ў рэспубліцы 1.650 тыс. дзесяцін.

Да рэволюцыі 1917 году, ўсе землі сельска-гаспадарчага прызначэньня былі ў выкарыстаньні наступных катэгорыяў зямлякарыстаньнікаў: у гаспадарак працоўнага тыпу—72,8% усяе плошчы, у буйных абшарнікаў—25,9%, у дзяржаўных, царкоўных і грамадзкіх організацый—1,3%. У выніку соцыяльнай рэволюцыі ў кастрычніку 1917 году амаль усе ўдобныя сельска-гаспадарчыя землі перашлі ў працоўнае карыстаньне сялянства, і толькі 3,7% (209.115,5 дзес.) удобных с.-г. зямель засталося ў руках дзяржавы. Такім парадкам, дзякуючы рэволюцыі сялянскае зямлякарыстаньне павялічылася на 1.327.271 дзесяц. іначай на 32,3% (да 5.442.321 дзесяц.).

Нягледзячы, аднак, на такое значнае павялічэньне сялянскага зямлякарыстаньня пасьля рэволюцыі, сярэдняя забясьпечанасьць зямлёй аднаго сялянскага двара засталася амаль бяз зьмены: да 1917 году на кожны сялянскі двор прыпадала ў сярэднім 8,0 дзесяц., цяпер-жа—8,05 дзесяц. Тлумачыцца гэта тым, што з часу рэволюцыі і да апошняга часу адбывалася масавае ўтварэньне новых сялянскіх гаспадарак (каля 100 тыс.). Зямельная-ж забясьпечанасьць на адну душу сельскай насельнасьці павялічылася на 0,22 дзесяц., або на 17,6% параўнальна з 1917 годам.

Павялічэньне сялянскага зямлякарыстаньня ня было ўсюды аднолькава роўным: у тых мясцовасьцях, дзе былі буйныя абшарніцкія ўладаньні, сялянства больш значна павялічыла сваё зямлякарыстаньне; у іншых-жа раёнах амаль і ня было дадатковага надзяленьня зямлёй. З гэтай прычыны захавалася шмат малазямельных гаспадарак, якія толькі ў апошні час пачалі данадзельвацца за рахунак здабываемых новых зямельных фондаў (з лесавага фонду, кінутых зямель, абрэзкаў поўпрацоўных гаспадарак). Паводле забясьпечанасьці зямлёю беларускае сялянства падзяляецца на наступныя групы: да 0,5 дзес. сенажаці на ядака—26,5% гаспадарак, ад 0,5 да 1,5 дзесяц.—65% і звыш 1,5 дзес.—8,75%.

Што датычыцца дзяржаўных зямельных маёмасьцяй, то яны займаюць плошчу, як зазначалася вышэй, у 209.115,5 дзес. Яны падзяляюцца на рэспубліканскія, акружныя і раённыя. Да рэспубліканскіх зямельных маёмасьцяй належаць аб'яднаныя ў трэсты савецкія гаспадаркі, мэліорацыйны фонд і значныя тарфяньнікі, буйныя вазёры і сажалкі; да акружных і раённых—агранамічныя вучасткі, сенажатны фонд, садова-гародныя гаспадаркі і інш. Апошнія паступова ліквідуюцца, шляхам передачы іх у працоўнае карыстаньне.

Сярод сялянскіх гаспадарак, пераважнаю формай зямлякарыстаньня зьяўляецца цераспалосная. Паводле даных падліку на 1 студзеня 1925 году ўсе зямельныя гаспадаркі па форме зямлякарыстаньня разьмяркоўваліся ў наступным парадку: цераспалосных 69,25%, адрубных 3,75%, хутарных 19,03%, невыясьненай і няпэўнай формы 1,48%; усяго-ж гаспадарак з зямлёю 93,51% паміж якіх 1,48% без палявога засеву. Гэтае разьмеркаваньне сялянскіх гаспадарак на формы зямлякарыстаньня выяўляе даволі значную ўдзельную вагу хутарных гаспадарак, імкненьне к далейшаму вытварэньню якіх вельмі выразна адбіваецца пры работах па зямляўпарадкаваньні.

Выкарыстаньне сельска-гаспадарчай плошчы, вельмі саслаблае ў часе імпэрыялістычнай і грамадзянскай войнаў, пачынаючы з 1922 году ўвесь час узмацняецца. Засеўная плошча складала ў 1924 годзе 2.287,3 тыс. дзесяц., а ў 1925 годзе—ужо 2.493 тысяч. дзес., перасягнуўшы даваенны памер на 13%. Рост засеўнай плошчы ў апошнія годы быў настолькі хуткім, што ён далёка пакінуў за сабою тэмп даваеннага часу: з 1920/21 году агульны памер засеўнай плошчы з 65%, пораўнальна з плошчай даваеннага часу, павялічыўся к 1925 году да 113%, што ў сярэднім дае каля 9% прыросту за год, тады як да вайны гэты прырост адбываўся на 1,0%.

У дачыненьні да паляводзтва беларуская сельская гаспадарка да гэтага часу застаецца пераважна збажыннаю, хоць імкненьне к разьвіцьцю ў ёй інтэнсыўных культур і даволі значнае. Так з 1887 да 1917 году значна разьвіліся засевы траў, заняўшыя

замест 0,6% складу засеўнай плошчы ўжо 5,7%; павялічыліся таксама засевы тэхнічных і прапашных культур: засеўная плошча лёну вырасла з 1887 да 1913 году з 2,4 да 2,7%, а бульбы—з 6,7 да 12,4%. У годы вайны і разбураньня (1916—1921) інтэнсыўныя культуры пачалі скарачацца, паляводзтва стала, амаль выключна, збажынным. З 1922 году ўжытак інтэнсыўных культур зноў стаў здабываць сабе месца ў паляводзтве, і на гэты час (1926 год) склад засеўнай плошчы дасягнуў даваеннага часу.

Уся плошча, занятая пад пахаць, разьмяркоўваецца ў такім парадку:

| | Пад засевам | Апрача гэтага, пад засевам лубіну | Незасеяны папар | Пусткі, дзялянкі і інш. |
|---|---|---|---|---|
| 1925 год . | 71,91 % | 1,21 % | 21,28 % | 5,60 % |
| 1924 „ . | 68,58 % | 0,91 % | 22,94 % | 7,57 % |

У засевах перавага застаецца за жытам, хаця з году ў год яго ўдзельная вага ўсё зьніжаецца. Разьмеркаваньне засеўнай плошчы на культуры было такім:

| | 1916 г. | 1923 г. | 1924 г. | 1925 г. |
|---|---|---|---|---|
| Жыта азімае . . . | 39,36 | 44,68 | 42,51 | 39,91 |
| Ячмень . . . . . | 10,87 | 9,01 | 8,50 | 7,86 |
| Авёс . . . . . . | 22,67 | 18,21 | 18,35 | 18,19 |
| Іншая збажына . . . | 9,25 | 11,15 | 13,17 | 13,92 |
| Усяго збажыны . | 82,15 | 83,05 | 82,53 | 79,88 |
| Лён і каноплі . . . | 4,16 | 3,04 | 3,41 | 4,66 |
| Бульба . . . . . | 8,67 | 11,46 | 10,36 | 11,31 |
| Засеўныя травы (віка, канюшына, цімаф. . | 5,02 | 2,33 | 3,84 | 4,64 |

Гэтыя даныя сьведчаць, хоць і аб паступовым, але нясупынна ўзрастальным значэньні інтэнсыўных культур. Разьвіцьцё тэхнічных і прапашных культур, а таксама засеўных траў залежыць раней усяго ад нязначнай даходнасьці зямлі, занятай збажыннымі культурамі. Якасьць глебы БССР такая, што неабходна

вельмі значная затрата працы, каб палучыць мала-веле здавальняльны ўраджай збажыны. Тэхнічныя культуры і засеўныя травы, як больш карысныя экономічна, заваёўваюць усё большае і большае значэньне.

Сярэдні збор збажыны і палявых расьлін з дзесяціны невялікі. Урадлівасьць збажыны, якая дужа зьменшылася ў годы вайны ад невыстарчальнай апрацоўкі зямлі, на гэты час ужо даведзена да роўню даваеннага часу. Так, сярэдні збор на сучаснай БССР асноўных культур даваў (пудоў з дзесяціны):

| | За 1896—1904 | За 1905—1913 | За 1921 г. (Меншчына) | За 1923 г. | За 1924 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Азімае жыта . | 41,2 | 42,4 | 41,4 | 46,0 | 48,1 |
| Ячмень . . . | 40,8 | 47,1 | 36,9 | 45,0 | 51,2 |
| Авёс . . . . | 47,3 | 48,3 | 40,6 | 51,0 | 55,7 |
| Ільнянае семя . | 28,4 | 29,2 | 17,2 | 22,4 | 26,5 |
| Бульба . . . | 453,4 | 430,2 | 567,0 | 523,3 | 548,2 |

Павялічэньне ўрадлівасьці за апошнія тры годы, перасягнуўшае за межы даваеннага часу, значна палепшыла дабрабыт сяла і адбілася перш за ўсе на памеры спажыцьця насельнасьцю і жывёлай. Збажынна—фуражны балянс БССР малюецца наступнымі данымі (у тысячах пудоў):

| Годы | Агульны збор збажыны | Спажыцьцё: Сельскай насельнасьцю | Спажыцьцё: Сельскай жывёлай | Спажыцьцё: Пашло на насеньне | Спажыцьцё: Усяго | Астача | % таварнасьці |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1923-24 | 84.735,7 | 42.931,6 | 16.935,3 | 20.036,8 | 79.903,7 | 4.831,7 | 5,7 |
| 1924-25 | 92.703,2 | 45.893,3 | 18.008,7 | 20.434,8 | 84.337,8 | 8.365,4 | 9,0 |
| 1925-26 | 100.982,0 | 47.969,4 | 22.307,1 | 21.975,5 | 92.252,0 | 8.730,0 | 8,7 |

Да вайны збажынна—фуражны балянс Беларусі быў пасыўным і ў сярэднім увоз хлеба перавышаў вываз на 6 міл. пудоў за год. Пасыўнасьць гэтага балянсу застаецца і ў сучаснасьці: за 1924—25 год увоз хлеба перавышаў вываз на 1.925 тыс. пудоў.

Гадоўля сенажацяй у БССР мае да сучаснага моманту даволі прымітыўны характар. Уся дзейнасьць ў гэтым кірунку зьмяшчаецца ў кошлі травы з прыродных сенажацяй. Культур-тэхнічныя работы па паляпшэньні сенажацяй пачалі разьвівацца толькі ў 1924—25 годзе пад уплывам дзяржаўных культур-тэхнікаў. Дзякуючы гэтай рабоце, паляпшаецца якасьць сенажацяй і іх ураддівасьць. Але ўсё-такі цяпер ураддівасьць сенажацяй крайне нізкая: сярэдні збор сена з дзесяціны заліўной сенажаці дае 120 пудоў, сухадольнай—80—82 пуды, балотнай—77,8 пуд. і лесавай—78,8 пудоў. У сярэднім збор сена з прыродных сенажацяй дае па БССР 132,5 міл. пудоў за год.

Значная колькасьць прыродных сенажацяй, а таксама разьвіцьцё засеву траў у паляводзтве абумоўліваецца і знаходзіцца ў шчыльнейшай сувязі з разьвіцьцём гадоўлі жывёлы.

Жывёлагадоўны ўхіл беларускай сельскай гаспадаркі выявіўся яшчэ задоўга да рэвалюцыі, менавіта пад уплывам большай даходнасьці жывёлагадоўлі перад паляводзтвам, якое патрабуе значнай затраты працы. Разьвіцьцё грунтоўных галін гадоўлі жывёлы ў даваенны час у трох губэрнях—Менскай, Віцебскай і Магілёўскай было такім:

| | Лік галоў у 1883 годзе | Лік галоў у 1913 годзе | % росту |
|---|---|---|---|
| Буйнай рагатай жывёлы | 1.330.588 | 2.160.910 | 62 |
| Сьвіней . . . . . . | 918.080 | 1.428.744 | 56 |
| Коняй . . . . . . . | 864.675 | 1.113.073 | 29 |
| Авец . . . . . . . . | 1.222.438 | 1.592.403 | 30 |

Адсюль відаць, што асабліва хутка разьвівалася таварная гадоўля жывёлы (буйная рагатая жывёла і сьвіньні). У сярэднім штогодны прырост коняй складаў 0,84 %, буйнай рагатай жывёлы—1,63 %, авец—0,89 % сьвіней—1,48 %.

Ваенныя падзеі, якія адбываліся на тэрыторыі БССР з канца 1915 году да канца 1920 году, згубна адбіліся на гадоўлі жывёлы. У 1920—21 годзе колькасьць буйнай рагатай жывёлы скарацілася да 71 % супроць 1913 году, авец—да 85 % і сьвіней—да 73 %. З 1922 г. пачынаецца хуткае аднаўленьне чэрад, прычым прырост іх за год складае (1924—25): для коняй—13,0 %, буйнай рагатай жывёлы—18,5%, авец—20,8% і сьвіней—29,6%. Агульная колькасьць жывёлы была (галоў):

| | у 1924 годзе | у 1925 годзе |
|---|---|---|
| Коняй . . . . . | 788.069 | 890.792 |
| Буйнай рагатай жывёлы | 1.550.568 | 1.837.818 |
| Авец . . . . . | 2.248.782 | 2.726.078 |
| Сьвіней . . . . | 1.361.565 | 1.764.926 |

Хоць адноўны процэс у галіне жывёлагадоўлі ідзе вельмі хутка, але ўсё-ж к пачатку 1926 году ён яшчэ ня скончыўся. Параўнаньне ніжэй адзначаных лічбаў пераконвае ў гэтым. На 100 дзесяцін засеўнай плошчы прыпадала:

| | у 1913 годзе | у 1925 годзе |
|---|---|---|
| Рабочых коняй . . . | 29.6 | 27.4 |
| Буйнай рагатай жывёлы (дарослай) . . . | 58.6 | 47.1 |
| Авец (без ягнят) . . . | 54.5 | 55.2 |
| Сьвіней (без парасят) . | 44.3 | 43.3 |

Гэтыя даныя выяўляюць вельмі значнае адставаньне ў аднаўленьні чэрад буйнай рагатай жывёлы. Але гэтае адставаньне, відавочна, будзе папоўнена за бліжэйшыя два годы.

Гадоўля птаства ў Беларусі раней была даволі разьвіта. Асабліва многа разводзілася гусей. Цяпер, з прычыны вывазных цяжкасьцяй, гэтая галіна мае пераважна спажывецкі характар. Усяго хатняга птаства ў 1925 годзе налічвалася 2.769.706 штук.

Незямляробныя промыслы сельскай насельнасьці ня маюць у БССР шырокага разьвіцьця. Яны зьмяшчаюцца ў саматужных занятках, лесавых загатоўках і плытніцтву. Саматужнікаў, якія працуюць у сёлах, налічваецца ўсяго 29.661 чалав. Найбольш значную групу паміж іх складаюць краўцы і шаўцы—11.661 чал., за імі ідуць саматужнікі па дрэваапрацоўках—7.685 чал., пасьля кавалі, бляхары і інш.—6.685 чал. Рэшта сельскіх саматужнікаў, як гарбары, аўчыньнікі, гаршчаньнікі, ткачы і інш. налічваецца даволі мала. Наогул, саматужныя промыслы даюць сельскай насельнасьці каля 8.898 тыс. руб. даходу. Што дачыняецца лесараспрацовак і плытніцтва, то ў 1925—26 годзе ад іх сялянства зарабляе да 6.793 тыс. руб. Такім парадкам, незямляробныя заработкі даюць сялянскай гаспадарцы да 15.691 тыс. рублёў даходу.

Агульная даходнасьць сельскай гаспадаркі БССР, залічаючы сюды і незямляробныя промыслы, вызначаецца ў наступных даных:

| Галіны сельскай гаспадаркі | Агульны даход (у тыс. рублёў) | %% |
|---|---|---|
| Паляводзтва . . . . | 171.115 | 40,4 |
| Гадоўля сенажацяй . . | 45.659 | 10,7 |

| Галіны сельскай гаспадаркі | Агульны даход (у тыс. рублёў) | $^0/_0{}^0/_0$ |
|---|---|---|
| Гадоўля жывёлы . . . | 161.734 | 38,0 |
| Гародніцтва . . . . | 21.220 | 5,0 |
| Садоўніцтва . . . . | 3.329 | 0,8 |
| Пташніцтва . . . . | 5.990 | 1,4 |
| Пчалярства . . . . | 531 | 0,1 |
| Саматужныя і старонныя (отхожие) промыслы . | 15.691 | 3,6 |
| Агулам . . . | 426.269 | 100,0 |

Такім парадкам, у 1925—26 годзе на адну сялянскую гаспадарку прыпадала ў сярэднім 629,6 руб. агульнага даходу, а на душу сельскай насельнасьці—115 руб. Гэтая даходнасьць зьяўляецца даволі меншаю, чымся ў шмат якіх іншых раёнах Саюзу ССР. Перад рэспублікай стаяць вялікай важнасьці пытаньні па ўздыму даходнасьці сельскай гаспадаркі шляхам зямляўпарадкаваньня, мэліорацыі няўдобных зямель, інтэнсыфікацыі сельска-гаспадарчай вытворчасьці, палепшаньня якасьці жывёлы і інш.

Лясы займалі даўней больш паловы тэрыторыі Беларусі. Нават у 1887 годзе лесавая плошча складала 39,6 $^0/_0$. Разьвіваўшаеся выкарыстаньне лясоў у вапошнія дзесяцілецьці перад усясьветнай вайной, агромністае зьнішчэньне лясоў, у часе вайны, на патрэбы фронту, бязладная высечка лесу ў рэволюцыйны пэрыод зьбяднілі лесавыя масывы Беларусі. Напярэдадні вайны лясовасьць па сучаснай БССР дасягала 31 $^0/_0$, цяпер-жа яна складае ў сярэднім 23,9 $^0/_0$. Калі да вайны гадавы прырост сьпелых пасадак вызначаўся ў 0,75 куб. сажняў на дзесяціну, і гадавая выдача драўніны ў 1911—13 гадох раўнялася 0,68 куб. сажняў з дзесяціны, то цяпер, з прычыны зьбядненьня лясоў, гадавая выдача складае толькі 0,20 куб. сажняў з дзесяціны. Зьменшылася таксама і даходнасьць лясоў: у 1911—13 гадох даход на дзесяціну ўдобнай лесавай плошчы скарбовых дач складаў 9 руб. 39 кап., а ў 1924—25 годзе дзесяціна давала 3 руб. 45 кап.

Усе лясы БССР падзяляюцца на дзяржаўныя і мясцовыя. Першыя выкарыстоўваюцца непасрэдна дзяржавай, а другія— пераданы ў карыстаньне сялянству. У канцы 1925 году дзяр-

жаўныя лясы мелі 2.567.745 дзесяцін, а мясцовыя—312.849 дзес. Уся лесавая плошча разьмяркоўваецца ў такім парадку:

| | | |
|---|---|---|
| Занята лесам . . . . | 2.360.523 | дзесяціны |
| Не занята „ . . . . . . | 60.932 | „ |
| Агулам удобнай . | 2.421.455 | дзесяцін |
| Удоб'яў і няўдобных зямель . | 452.654 | „ |
| Агулам . . . . | 2.874.109 | дзесяцін |

Разьмеркаваньне лясоў па тэрыторыі рэспублікі вельмі няроўнае. Па асобных акругах лясовасьць хістаецца ад 16,7 да 34,0%, толькі чатыры акругі маюць лясовасьць звыш 20%. На аднаго жыхара прыпадае ў сярэднім па рэспубліцы 0,58 дзесяц. удобнай лесавай плошчы (крайнія лічбы па акругах—0,32 і 1,51 дзес.).

Нармальная гадавая лесасека галоўнага карыстаньня роўна 28.500 десяц., а з прычыны недахопу сьпелых і дасьпяваючых пасадак лесасека вызначаецца па ўзросту і становішчу апошніх. У 1924—25 годзе было прызначана для высечкі 23.120 дзесяц. з агульным запасам драўніны на 576.300 куб. сажняў: дзяржаўным організацыям выдана 12.558 дзесяц. (54%); на мясцовыя патрэбы 7.197 дзесяц. (31%); нескарыстанымі засталіся 3.365 дзес. (15%). У 1925—26 годзе, са зьменай кон'юнктуры на лесамат'ялы, значна вырас попыт на лес, чаму скарыстана ня толькі ўся гадавая лесасека, але выдана нават звыш каштарысаў (на 18—20%).

Бязладзьдзе лесавай гаспадаркі, аб якім гаварылася вышэй, адбылося ня толькі з прычыны вайны. У Беларусі гэтае зьявішча пачалося шмат раней вайны і агульнага разбурэньня. З усяе лесавай плошчы толькі 20% належала ў дарэволюцыйны час скарбу; рэшта (80%) лясоў знаходзілася ў руках прыватных уласьнікаў. Апошнія старанна секлі лясы, нічога ня робячы для іх аднаўленьня або ўпарадкаваньня. Толькі з часу замацаваньня ў Беларусі Савецкай улады і нацыяналізацыі ўсіх лясоў, пачалі ўжывацца мерапрыйманьні па аднаўленьні лесавай гаспадаркі; гэтыя мерапрыйманьні накіроўваліся, галоўным чынам, к лесаўпарадкаваньню і лесакультурным работам. Упарадкавана ўсяго 633.878 дзесяц. (у адным толькі 1924—25 годзе ўпарадкавана 286.000 дзесяц.); рэшта плошчы ў 1.865.511 дзесяц. яшчэ толькі павярхоўна абсьледжана. Закультавана па гэты час 18% пустак і пасек. Лесаўпарадкаваньне і лесааднаўленьне, як грунтоўныя мерапрыйманьні ў лесавай гаспадарцы, пастаноўлены ўжо на моцны шлях і ў бліжэйшыя годы будуць цалком зьдзейсьнены. Куды складней абыходзіцца справа з мэліорацыяй лясоў, якая толькі яшчэ пачынаецца. Багацьце забалочаных лесавых прастораў (да 520 тыс. дзесяц.), а таксама прастораў, якія

патрабуюць замацаваньня пяскоў, выклікае неабходнасьць правядзеньня мэліорацыі. Гэтыя работы не маглі пачацца раней 1924—25 году, бо для іх выкананьня патрэбны агромністыя сродкі, якіх разбураная краіна ў першыя годы свайго будаўніцтва ня мела.

**Прамысловасьць.** Прамысловасьць на Беларусі вельмі шчыльна злучана з сельскай і лесавай гаспадаркай. Тут нельга знайсьці прадпрыемстваў, апрача кравецкіх, якія-б працавалі выключна на прывознай сырызьне. Увозяцца толькі дапаможныя віды сырызны, асноўная-ж сырызна палучаецца на месцы. Грунтоўнымі відамі прамысловасьці Беларусі зьяўляліся ў даваенны час: вінакурная, дрэваапрацоўчая, шкляная, гарбарная, піваварная і дрожджавая вытворчасьці, выраб сернікаў і інш. Асабліва моцна была разьвіта вінакурная прамысловасьць, якая грунтавалася на шырокім засеву бульбы. Шкляная прамысловасьць разьвівалася, дзякуючы таннасьці мясцовага, драўніннага апалу; дрэваапрацоўчая прамысловасьць мела вялікі посьпех у вапошнія 8—10 год перад усясьветнай вайной.

Годы вайны адбіліся на прамысловасьці Беларусі вельмі цяжка. Ужо з 1915 году абсталяваньне шмат якіх фабрык і заводаў было эвакуявана; у часе ваенных падзей зьнішчалася ня толькі абсталяваньне, але і самыя прадпрыемствы. Гэта выклікала неабходнасьць затраты значных напружаньняў і энэргіі на адбудову разбуранага. Цяпер вытворчасьць шмат якіх прадпрыемстваў вышэй даваеннага часу, агульная-ж продукцыя прамысловасьці складае 65% к даваеннай (агульная продукцыя ніжэй даваеннай затым, што цяпер меней дзеючых прадпрыемстваў).

Паводле відаў вытворчасьці і ліку занятых у ёй рабочых, усе цэнзавыя прамысловыя прадпрыемствы на 1 кастрычніка 1925 году разьмяркоўваліся ў такім парадку (дзеючыя):

| Групы вытворчасьці | Лік прадпрыемств. | Колькасьць занятых рабочых |
|---|---|---|
| Здабыцьцё і апрацоўка мінэраляў | 15 | 2.949 |
| Апрацоўка мэталяў | 8 | 623 |
| Выраб машын | 5 | 903 |
| Апрацоўка дрэва | 38 | 2.766 |
| Хімічная прам. (сярніковая) | 1 | 759 |
| Жыўна-прысмачная | 52 | 1.544 |
| Апрацоўка матар. жыв. пахадж. | 4 | 402 |
| Гарбарная прамысловасьць | 14 | 635 |
| Апрацоўка бавоўны | 1 | 313 |

| Групы вытворчасьці | Лік прадпрыемств. | Колькасьць занятых рабочых |
|---|---|---|
| Апрацоўка воўны . . . . . . . | 3 | 109 |
| Ільняная прамысловасьць . . . . | 2 | 1.104 |
| Апрацоўка пянькі і інш. расьлінных матар'ялаў . . . . . . . . . | 1 | 40 |
| Вопратка і туалет . . . . . . | 15 | 1.851 |
| Папяровая прамысловасьць . . . | 11 | 1.474 |
| Друкарская . . . . . . . . . | 11 | 1.033 |
| Акулярная . . . . . . . . . | 1 | 166 |
| Сілавая і вададастаўная . . . . | 19 | 355 |
| Агулам . . . . | 202 | 17.026 |

У сярэднім на адно цэнзавае прадпрыемства прыпадае 84,4 рабочых у той час, як на 1 кастрычніка 1924 г. прыпадала толькі 54,1 рабочых, а ўсяго рабочых было занята 11.253.

Амаль усе буйныя цэнзавыя прадпрыемствы належаць дзяржаўным органам. З 17.026 вытворчых рабочых, якія налічваліся на 1 кастрычніка 1925 году на дзяржаўных прадпрыемствах працавала 14.541 рабочых, або 85,2%; у працоўных колектывах (прамысловых)—1458 раб. (8,6%); у коопэрацыйных прадпрыемствах—432 раб. (2,5%) і прыватных пасэсыйных—421 раб. (2,5%) і ўласных—204 раб. (1.2%).

Разьмеркаваньне цэнзавых прамысловых прадпрыемстваў паводле форм выкарыстаньня і вынікаў іх дзейнасьці за 1924—25 год відаць з гэтай табліцы:

| ФОРМЫ ВЫКАРЫСТАНЬНЯ | СЯРЭДНІ ЛІК: Дзеючых прадпрыемстваў, Абсолютна | Дзеючых прадпрыемстваў, % | У іх рабочых, Абсолютна | У іх рабочых, % | Агульны выраб: У тысяч. чырвон. рублёў | Агульны выраб, % |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дзяржаўныя . . | 134,7 | 67,3 | 12.497 | 84,8 | 44.487,5 | 86,7 |
| Коопэрацыйныя . | 10,3 | 5,1 | 388 | 2,6 | 1.552,5 | 3,0 |
| Прыватныя . . . | 35,1 | 17,5 | 611 | 4,2 | 2.874,5 | 5,6 |
| Прац. колектывы . | 20,2 | 10,1 | 1.242 | 8,4 | 2.396,7 | 4,7 |
| Агулам . | 200,3 | 100 | 14.738 | 100 | 51.311,2 | 100 |

У параўнаньні з 1923—24 г., сярэдні лік занятых у цэнзавай прамысловасьці вытворчых рабочых, павялічыўся з 11.552 чал. да 14.738 чал., або на 27,6⁰/₀. Агульная продукцыя павялічылася з 32.167,3 тыс. руб. да 51.311,2 тыс. руб. (на 60⁰/₀). Павялічэньне ліку рабочых ідзе цалком за рахунак дзяржаўнай прамысловасьці і працоўных колектываў. Колькасьць рабочых на прыватных прадпрыемствах ня толькі не павялічваецца, але памяншаецца.

У складзе дзяржаўных цэнзавых прадпрыемстваў пераважнае значэньне належыць прамысловасьці, аб'яднанай Вышэйшым Саветам Народнай Гаспадаркі. Агульная продукцыя прадпрыемстваў ВСНГБ складае 63,6⁰/₀ продукцыі ўсяе цэнзавае прамысловасьці, а колькасьць рабочых, у ёй занятых,—68⁰/₀.

Рост прамысловасьці ВСНГБ малюецца наступнымі данымі:

| Годы | Сярэдні лік рабочых па сьпісах | | Агульная продукцыя | |
|---|---|---|---|---|
| | Абсолютн. | У ⁰/₀⁰/₀ к 1922—23 г. | У тысяч. даваенных р. | У ⁰/₀⁰/₀ к 1922—23 г. |
| 1922—23 год . | 7.830 | 100 | 8.613 | 100 |
| 1923—24 „ . | 8.879 | 113 | 11.262 | 130,8 |
| 1924—25 „ . | 10.015 | 128 | 16.489 | 191,4 |

Такім парадкам, за тры годы агульная продукцыя прамысловасьці ВСНГБ амаль падвоілася пры павялічэньні ліку рабочых толькі на 28⁰/₀. Рост вытворчасьці адбываўся не за рахунак павялічэньня абхвату прадпрыемстваў, а шляхам уздыму вытворчасьці працы і больш разумнага скарыстаньня тэхнічных сродкаў прадпрыемстваў. Паводле кошту агульнага вырабу, на першым месцы стаіць жыўная (пищевая) прамысловасьць, на долю якое прыпадае 25⁰/₀ усяе продукцыі; за ёю ідуць: дрэваапрацоўчая (20,6⁰/₀), папяровая (12,7⁰/₀), гарбарная (8,5⁰/₀), мэталяапрацоўчая (8⁰/₀), шкляная (6⁰/₀). Даволі значна продукцыя шчаціньня, але наўрад ці трэба залічаць яе да фабрычна-заводзкай, бо фабрыкату пры апрацоўцы не палучаецца і ўся перапрацоўка зьмяшчаецца толькі ў ачыстцы.

Павялічэньне агульнага вырабу, якое наглядаецца аж да апошніх дзён, адбывалася дзякуючы цэламу мыху фактараў і мерапрыйманьняў, накіраваных у бок палепшаньня пастаноўкі прамысловай вытворчасьці. У гэтыя фактары неабходна залічыць раней за ўсе ўздым вытворчасьці працы. Калі на прадпрыемствах ВСНГБ выраб за адзін чалавека-дзень у 1923—24 г. даваў 4,8 даваенных рублёў, то ў 1924—25 годзе гэты выраб ацэньваўся ў 5,86 руб. Павялічэньне вырабу за адзін чалавека-

дзень у 1923—24 г. складала 106% у параўнаньні з 1922—23 годам, а у 1924—25 г. 122% у параўнаньні з 1923—24 годам.

Сярэдні месячны заработак прамысловых рабочых складаў у 1924—25 г. 22,8 бюдж. р., перавышаючы заработак 1923—24 г. на 21,3%. Найбольш меншы заработак быў у панчошна-вязальнай вытворчасьці (15,2 руб.), лёна-пральнай (16,4 руб.) і сярніковай прамысловасьці (16,7 руб.). Самы большы заработак быў у шчаціньнікаў (38 бюдж. руб.), гарбароў (32,1 бюдж. руб.) і мэталістых (31,3 бюдж. руб.). Наогул, па асобных галінах прамысловасьці сучасны заработак рабочых у даваенных рублёх складае супроць даваеннага:

| | | |
|---|---|---|
| У мэталяапрацоўчай | прамысловасьці | 94,2 % |
| „ Шкляной | „ | 103,7 „ |
| „ дрэваапрацоўчай | „ | 107,7 „ |
| „ сярніковай | „ | 110,7 „ |
| „ жыўнай | „ | 121,0 „ |
| „ шчаціннай | „ | 103,2 „ |
| „ гарбарнай | „ | 97,6 „ |
| „ папяровай | „ | 104,0 „ |
| „ лёна-пральнай | „ | 108,0 „ |

Такім чынам, у дачыненьні да заработку ў прамысловасьці, даваенныя рамкі ўжо рассунены і далейшы рост яго будзе залежыць ад росту вытворчасьці.

Вырабы беларускае прамысловасьці, пакрываючы мясцовыя патрэбы, вывозяцца далёка за межы БССР. Продукцыя дрэваапрацаўчай прамысловасьці збываецца або за граніцай, або на ўнутраным рынку (Украіна). Дрожджы, шкло, сернікі, абоі больш як на 50% прадаюцца за межамі Беларусі. Шчаціньне апрацоўваецца выключна для вывазу.

К канцу 1925 году беларуская прамысловасьць адноўлена ў сэнсе нормы і нагрузкі работы дзеючых прадпрыемстваў. У выкарыстаньні сваіх сродкаў прамысловасьць падышла да мажлівага максімуму. Для далейшага разьвіцьця і пашырэньня прамысловай вытворчасьці з 1926 году пачынаецца будаўніцтва новых прадпрыемстваў, якія раней за ўсё павінны быць разьлічаны на поўнае скарыстаньне мясцовых запасаў сырызны. Будоўная праграма ацэньваецца ў 5.783 тыс. руб. і ў 2.8 разоў перавышае затраты на адноўныя работы 1924—25 году.

Разьвіцьцё мясцовай прамысловасьці, якая падпарадкавана акружным і раённым выканаўчым камітэтам, вельмі значна адстала ад разьвіцьця больш буйнай дзяржаўнай прамысловасьці. Гэтыя прадпрыемствы, звычайна поўсаматужнага тыпу, раскіданыя на вялікую адлегласьць, складаюць вядомыя цяжкасьці ў іх кіраваньні. Яны выкарыстоўваюцца пераважна шляхам аддачы ў пасэсыю (млыны, дробныя, гарбарні, пільні і г. д.) Сродкі

што выручаюцца выканаўчымі камітэтамі ад аддачы ў пасэсыю прадпрыемстваў, ідуць у мясцовы бюджэт. Работа гэтых прадпрыемстваў зьвязана выключна з абслугоўваньнем мясцовых патрэб.

Саматужныя промыслы ў гарадох і мястэчках даволі значныя. Імі занята 14.241 чалавек. Паводле відаў промыслу, гарадзкія і местачковыя саматужнікі разьмяркоўваюцца так:

| ВІДЫ ПРОМЫСЛУ | Лік занятых асоб | |
|---|---|---|
| | У гарадох | У мястэчках |
| Апрацоўка мінэраляў . . | 148 | 140 |
| „ мэталяў . . . | 1.101 | 1.046 |
| „ дрэва . . . . | 332 | 314 |
| „ воўны . . . | 152 | 341 |
| Гарбарная вытворчасьць . | 1.250 | 954 |
| Вопратка і туалет . . . | 3.217 | 2.441 |
| Іншыя . . . . . . . . | 1.965 | 840 |
| Агулам . . . | 8.165 | 6.076 |

Паміж гэтых промыслаў найбольш разьвіты: кравецкі (вопратка і туалет), шавецкі, кавальскі, сьлясарны (апрацоўка мэталяў) і гарбарны. Пры нястачы дзяржаўнага фабрычнага вырабу прадметаў першай неабходнасьці, саматужныя промыслы ў гарадох маюць глебу для свайго разьвіцьця, а местачковыя саматужнікі абслугоўваюць вёску.

**Гандаль.** У даваенны час таваразварот Беларусі быў даволі жвавы. Знаходзячыся паміж цэнтральнай прамысловай вобласьцю і Польшчай, Беларусь прапускала праз свой таваразварот значныя таварныя масы і служыла перадавальным пунктам для перакідкі тавараў у іншыя мясцовасьці Расіі. У выніку вайны Беларусь страціла даўнейшую гандлёвую сувязь і цяпер яе таваразварот абмяжоўваецца толькі ёмістасьцю сельскага і гарадзкога рынкаў, а таксама ўласнаю прамысловаю вытворчасьцю.

Сетка гандлёвых прадпрыемстваў БССР у 1924—25 годзе была наступнаю:

| Разрад | Усяго гандлёвых устаноў | У тым ліку Дзяржаўных | Коопэрацыйных | Прыватных |
|---|---|---|---|---|
| I | 1.584 | 5 | 7 | 1.562 |
| II | 6.887 | 40 | 95 | 6.752 |
| III | 5.133 | 290 | 1.112 | 3.731 |
| IV | 477 | 158 | 169 | 150 |
| V | 116 | 78 | 28 | 10 |
| Агулам | 14.197 | 571 | 1.421 | 12.205 |

З усяе колькасьці гандлёвых устаноў на долю дзяржаўных прыпадае 4 %, коопэрацыйных—10 % і прыватных—86 %. Дробны гандаль уразнос, са столікаў, латкоў і будак (прадпрыемствы I і II разрадаў) знаходзіцца амаль выключна ў руках прыватных асоб. Розьнічны гандаль з лавак (III разрад) больш як на дзьве трэці таксама выпаўняецца прыватнымі асобамі. Поўагулавы гандаль, паводле ліку прадпрыемстваў, падзяляецца аднолькава паміж дзяржавай (33,1 %), коопэрацыяй (35,4 %) і прыватнымі асобамі (31,5 %). Агулавы-ж гандаль на 2/3 знаходзіцпа ў руках дзяржаўных органаў, 1/4 коопэрацыі і толькі 8,7 % прадпрыемстваў гэтага характару належыць прыватным асобам. У сельскіх мясцовасьцях дзейнічала толькі 1.169 гандлёвых прадпрыемстваў (8,6 % усяго іх ліку); рэшта гандлёвых устаноў разьмешчаны ў акружных гарадох (50 %) і іншых гарадох і мястэчках (41,4 %). З ліку сельскіх гандлёвых устаноў на долю коопэрацыі прыпадае 602 і прыватных асоб—567.

Але калі, паводле ліку гандлёвых устаноў, прыватным асобам належыць як-бы першае месца ў гандлі, то паводле звароту прыватны гандаль толькі крыху перавышае 1/3 усяго пасярэдніцкага звароту за 1924—25 год. Тэндэнцыі гандлю паводле зваротаў у 1923—24 і 1924—25 гадох выяўляюцца ў такім парадку:

| КАТЭГОРЫІ ГАНДЛЮ | 1924—25 год: Звароты ў тысячах рублёў | 1924—25 год: % да ўсяго звароту | 1923—24 год: Звароты ў тысячах рублёў | 1923—24 год: % да ўсяго звароту | 1924—25 у %% судносінах з 1923—24 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Дзяржаўны . | 54.548 | 28,2 | 43.790 | 29,5 | 124,5 |
| Коопэрацыйны | 67.755 | 35,0 | 36.695 | 24,9 | 183,3 |
| Прыватны . | 71.395 | 36,8 | 67.645 | 45,6 | 105,5 |

З параўнаньня гэтых даных відаць, што прыватны гандаль разьвінае свае звароты вельмі нязначна ў той час, як дзяржаўны гандаль і коопэрацыя, асабліва апошняя, усё шырэй разьвінаюць сваю дзейнасьць. Коопэрацыя ня толькі зьбівае прыватны гандаль у поўагулавым, але і ў розьнічным гандлі, дзе яе ўдзел за 1924—25 год павялічыўся з 22,7 % да 35,5 %.

Што дачыняецца замежнага гандлю БССР, то ён праводзіцца праз экспортна-імпортную (вывозна-ўвозную) організацыю „Белдзяржгандаль“. Вывозяцца за граніцу, галоўным чынам, ільнянае валакно і семя, а таксама сырызна жывёліннага пахаджэньня; увозіцца-ж рознае начыньне, машыны, дапаможная сырызна для прамысловасьці і іншае. Вываз і ўвоз за два годы, апрача лесаматар‘ялаў, адбываўся ў такім памеры:

| Годы | Вываз у тысяч. рублёў | Увоз у тысяч. рублёў | Перавага вывазу над увозам (у тысяч руб.) |
|---|---|---|---|
| 1923—24 | 1.275 | 1.700 | — 425 |
| 1924—25 | 5.137 | 3.280 | +1.857 |

Даволі слабае разьвіцьцё вывазных опэрацый ніяк не характарызуе вывознай мажлівасьці Беларусі. У даваенны час з тэрыторыі цяперашняй БССР вывозілася розных тавараў на суму да 18 міл. руб. Гэтая мажлівасьць ніяк ня зьменшылася і цяпер. Трэба думаць, што з цягам часу Беларускай ССР удасца больш шырока выкарыстаць сваю сырызну для вывазу на заходнія рынкі.

**Коопэрацыя.** З агляду гандлю ўжо высьвятляецца роля і значэньне коопэрацыі ў таваразвароце. Спажывецкая коопэрацыя, як сыстэма, была першым відам коопэрацыі, які больш моцна пусьціў карэньні ў экономіку рэспублікі. Сьледам за ёю пачала разьвінацца і сельска-гаспадарчая коопэрацыя, якая ў апошнія часы ахапляе ўсё больш і больш шырокія масы сялянства. Разьвіцьцё сельска-гаспадарчага крэдыту, што апіраецца на сельска-гаспадарчыя таварыствы, якія ў гэты-ж самы час зьяўляюцца і першастковымі ячэйкамі сельска-гаспадарчага крэдыту, зрабіла вельмі спагадны ўплыў на ўмацаваньне ўсяе сельска-гаспадарчай коопэрацыі.

Да гэтых асноўных відаў коопэрацыі ўжо ў 1925 годзе прылучыліся новыя коопэрацыйныя організацыі: саматужна-прамысловая, інвалідная і жыльлёва-будоўная.

Кожны від коопэрацыі мае свой рэспубліканскі цэнтр, саюз, акружныя саюзы і нізавыя ячэйкі, якія даходзяць, апрача жыльлёвай і інвалiднай коопэрацыі, аж да самай вёскі. Уся наогул

коопэрацыйная сыстэма ўсіх відаў коопэрацыі яшчэ невыстарчальна разьвілася, бо апрача розных акалічнасьцяй экономічнага характару гэтаму разьвіцьцю перашкаджае ў значнай ступені адсутнасьць коопэрацыйных звычак у насельнасьці: коопэрацыя нарадзілася ў Беларусі пасьля Кастрычнікаўскай Рэволюцыі, а затым часта з прычыны окупацый прымушана была змагацца з рознымі напасьцямі.

Склад коопэрацыйнай сеткі і лік сяброў коопэрацыі на 1 кастрычніка 1925 году быў такім:

| ВІДЫ КООПЭРАЦЫІ | Лік аб'яднаньняў | Лік пайшчыкаў |
|---|---|---|
| Спажывецкая: | | |
| Спажывецкіх таварыстваў . . . | 533 | 172.058 |
| Ц. Р. К. . . . . . . . . | 13 | 52.520 |
| Усяго . . . | 546 | 224.578 |
| Сельска-гаспадарчая: | | |
| Сельска-гаспадарчыя таварыствы . | 224 | 18.151 |
| Крэдытныя " . | 140 | 90.502 |
| Колектыўныя гаспадаркі . . . . | 373 | 6.471 |
| Малочныя і маслабойна-сыраварныя арцелі . . . . . . . . . | 41 | 1.867 |
| Прамысловыя арцелі . . . . . | 24 | 245 |
| Іншыя спэцыяльныя таварыствы . | 102 | 4.994 |
| Усяго . . . | 904 | 122.230 |
| Саматужна-прамысловыя арцелі . . | 140 | 1.320 |
| Інвалідныя арцелі і організацыі . . | 90 | 534 |
| Жыльлёва-будоўныя таварыствы . . . | 24 | 1.500 (прыблiз.) |

З гэтых даных відаць, што нядаўна народжаныя віды коопэрацыі, як саматужна-прамысловая і жыльлёвая, яшчэ вельмі

слабыя; цяпер яны яшчэ знаходзяцца ў стане організаваньня. Сельска-гаспадарчая коопэрацыя ахапляе цяпер 18 % сялянскіх гаспадарак, між тым год назад ёю было ахоплена толькі 7,1 %. Спажывецкая коопэрацыя ў гарадох залучыла ў свой склад 61,9 % усіх сяброў профэсыянальных саюзаў; у сельскіх мясцовасьцях ёю коопэравана 22,6 % насельнасьці. Усё больш шырокае ахапленьне коопэрацыяй насельнасьці як у горадзе, гэтак і ў вёсцы, сьведчыць, што коопэрацыйная сыстэма ўкараняецца ў рэспубліцы і ў будучыне будзе мець вялікія посьпехі ў справе соцыялістычнага будаўніцтва краіны.

**Шляхі зносін.** Географічнае палажэньне Беларусі абумоўлівала ў дарэволюцыйны час кірунак экономічных шляхоў і сувязі краіны. Тавараабмен паміж цэнтральнай Расіяй і захадам праходзіў у значнай ступені праз Беларусь. Загэтым кірунак галоўных чыгуначных магістраляй ішоў з усходу на захад. У выніку вайны БССР, апынуўшыся каля заходняй граніцы саюзу ССР, палучыла перацятую чыгуначную сетку бяз уласных выхадаў на захад. Па гэтай прычыне такія магутныя па грузазвароту чыгункі, як быўшая Лібава-Роменская (цяпер Заходняя), сталі другараднымі і трэйцараднымі. Толькі з разьвіцьцём гандлёвых зносін у больш шырокім абхваце з нашымі суседзямі адновіцца значэньне гэтых дарог.

Чыгуначная сетка БССР мае ўдаўжкі 2.099 вёрст (2.254 клм.). Адна вярста чыгункі прыпадае ў сярэднім на 50 квадр. вёрст тэрыторыі. Агульны грузазварот чыгунак БССР складаў (у тысячах пудоў):

| Годы | Адпраўлена | Прывезена |
|---|---|---|
| У 1913 годзе . | 87.410 | 46.049 |
| У 1922-23 „ . | 98.028 | 64.231 |
| У 1923-24 „ . | 82.144 | 72.165 |

Такім парадкам, у дачыненьні да мясцовых грузаў, работа чыгунак БССР адноўлена цалком. Далёка нельга гэтага сказаць у дачыненьні да транзытных (правозных) грузаў.

Што дачыняецца водных шляхоў зносін, то іх кірунак пераважна ідзе з поўначы на поўдзень (сыстэма ракі Няпро) і толькі ў паўночнай частцы рэспублікі, якая ляжыць у вадазборы Заходняй Дзьвіны,—на захад (пра Нёман гаварыць ня прыходзіцца, бо толькі верхняя частка яго цячэ па БССР). Плытагоннае судаходзтва мажліва і адбываецца на шмат якіх рэках БССР; правільныя-ж параходныя зносіны падтрымліва-

юцца на Заходняй Дзьвіне ад Суража да Полацка, Беразіне— уніз ад Барысава, Прыпяці—уніз ад мяст. Турава і Няпры—па ўсім працягу яго ў межах БССР. Як кабатажнае, гэтак і паравое судаходзтва, нарушанае ў часе вайны, аднавілася толькі ў 1924 годзе і дасюль зьяўляецца яшчэ даволі слабым. Грузазварот, апрача плытніцтва, вельмі нязначны. Рачная сыстэма патрабуе ўпарадкаваньня свайго цячэньня.

Гужавыя дарогі БССР удаўжкі маюць 94.628 вёрст. Яны падзяляюцца на дзяржаўныя, акружныя, раённыя, сельска-палявыя. Да дзяржаўных дарог залічваюцца шосы 1.913 вёрст і ранейшыя паштовыя гасьцінцы (1.180 вёрст); акружныя дарогі злучаюць найбольш важныя адміністрацыйныя і экономічныя цэнтры ў межах акругі; да раённых дарог залічаны тыя, што злучаюць паселішчы як паміж сябе, гэтак і з раённымі цэнтрамі.

Увесь чыгуначны і водны транспарт, а таксама гужавыя дарогі дзяржаўнага значэньня, падпарадкаваны Народнаму Камісарыяту Шляхоў Зносін Саюзу ССР. Компэтэнцыя рэспублікі поўнасьцю пашыраецца толькі на грунтавыя дарогі мясцовага значэньня.

**Электрафікацыя.** Слабая індустрыялізацыя краіны, разнастайнасьць прамысловых прадпрыемстваў на, параўнальна, вялікай тэрыторыі, малыя памеры саміх прадпрыемстваў абумоўлівалі і памеры электрабудаўніцтва ў мінулым. Пабудаваньне электрычных станцый адбывалася толькі ў гарадох з мэтай задавальненьня спажывецкіх патрэб насельнасьці. На моцы гэтага электра-установкі мелі вельмі нязначную сілу: нават станцыі ў ранейшых губэрскіх гарадох (Менск, Віцебск, Магілёў) па магутнасьці дасягалі толькі да 350—500 кілёуат; у іншых-жа гарадох магутнасьць станцый у сярэднім не перавышала 40—50 кілёуат. Паводле разьвіцьця прамысловасьці слабасьць гарадзкіх установак выклікала будаўніцтва дробных станцый на кожным падпрыемстве для яго патрэб. У Віцебску, напрыклад, цяпер ёсьць каля 50 установак, што ўдаражае кошт электрычнай энэргіі. Апрача таго, старыя ўстаноўкі ня могуць задаволіць і патрэб у асьвятленьні саміх гарадоў. У сярэднім на жыхара прыпадае каля 1 ватта электрычнай энэргіі, інакш у 10 раз менш як па ўсім СССР.

Для ўпарадкаваньня дастарчэньня электрычнасьці і больш поўнага задаваленьня патрэб у электраэнэргіі гарадоў і прамысловасьці, у гэтым годзе робіцца пераабсталяваньне гарадзкіх электрастанцый. Часьцінна перабудова ўжо скончана, частка скончыцца ўлетку 1926 году. Агульная магутнасьць станцый у гарадох пасьля пераабсталяваньня дойдзе да 7.420 кілёуат.

Што дачыняецца ўжытку электраэнэргіі для больш шырокіх вытворчых мэт, то тут выпінаецца пэрспэктыва комбінаваньня сельскай гаспадаркі і прамысловасьці, далучаючы сюды

і коопэрацыйную перапрацоўку сельска-гаспадарчых прадуктаў. Для гэтага неабходна пабудова сеткі стандартных сельскіх станцый і дробных раённых станцый, дапасавальна да сельскагаспадарчых раёнаў. Гэтыя дробныя раённыя станцыі могуць быць пабудаваны на торфавых масывах, а ў некаторых выпадках можа быць скарыстана і сіла вады. Буйныя раённыя станцыі ў бліжэйшы час пэрспэктыў на разьвіцьцё ня маюць паколькі яны ня будуць самаакупляцца з прычыны малога выкарыстаньня.

Запасы апалу для разьвіцьця электрафікацыі ў БССР вельмі значны. Запасы торфу, не гаворачы ўжо аб сіле рэк, такія, што іх хопіць на сотні год для ўдастаткаваньня станцый у дзесяткі тычяч кілёуат. Загэтым пытаньне электрафікацыі БССР—пытаньне будучыны, пытаньне разьвіцьця тут буйнай прамысловасьці: тэкстыльнай, хімічнай і г. д.

**Горад, мястэчка і сяло.** Агульныя весткі аб экономічным становішчы БССР, адзначаныя вышэй у выглядзе статыстычных даных, неабходна папоўніць яшчэ кароткай якаснай характарыстыкай.

Гарады Беларусі, зьяўляючыся старадаўнымі паселішчамі ў Саюзе ССР, у працягу XVIII і XIX сталецьцяў расьлі вельмі марудна. Толькі больш буйныя паміж іх, якія сталі, дзякуючы разьвіцьцю чыгунак, вузлавымі цэнтрамі, у канцы мінулага і асабліва ў пачатку гэтага сталецьця пачалі перабудоўвацца, набываць прамысловы характар з асабліва відочным разьвіцьцём гандлю. Далёкія-ж ад чыгунак гарады (Слуцак, Ігумен, Клімавічы, Мсьціслаў, Чавусы і г. д.) заставаліся дробнымі гарадзкімі паселішчамі і захавалі ў будынках і характары жыцьця рысы сярэднявякоўя. Гарадзкога дабрабыту, у сучасным разуменьні гэтага слова, ня было: каналізацыі няма ні ў адным горадзе, вадаправоды ёсьць толькі ў 6. губэрскіх гарадох і некаторых павятовых; эляктрычнае асьвятленьне ў павятовых гарадох зьявілася толькі ў часе вайны, ды і то пры вельмі прымітыўных электраўстаноўках; на акраінах гарадоў шмат незабрукаваных вуліц. Буйны рамонт не рабіўся з пачатку ўсясьветнай вайны; к таму шмат якія гарады (Менск, Слуцак, Полацак, Барысаў) былі значна разбураны ў часе савецка-польскай вайны ў 1920 годзе. Між тым колькасьць насельнасьці ў гарадох хутка расьце, жыльлёвы крызіс прыняў даволі войстрыя формы. З прычыны гэтага гарадзкое будаўніцтва зьяўляецца аднэй з галоўнейшых гаспадарчых проблем рэспублікі.

Шмат якія з мястэчак некалі былі гарадамі (Тураў, Крычаў і інш.) і дасюль захавалі поўгарадзкі характар. Яны разьвіваліся, як гандлёвыя цэнтры сельскай насельнасьці; у мястэчках-жа мелі шырокае распаўсюджаньне рамесьніцтва і саматужніцтва. Але апрача гандлёвага і рамесьніцкага элемэнту

мястэчкі мелі і зямляробную насельнасьць. Гэтая соцыяльная будова мястэчка захавалася і да нашага часу, толькі ў ёй адбываюцца значныя расслаеньні ранейшых груповак. Гандаль у мястэчку пастулова пераходзіць у рукі коопэрацыі і даволі значныя кадры гандляроў застаюцца бяз працы; саматужныя промыслы таксама даволі скараціліся, бо шмат якія тавары сялянскага ўжытку, што раней выраблялісі рамесьнікамі і саматужнікамі, больш танна дастарчаюцца дзяржаўнымі і коопэрацыйнымі організацыямі. Гэтыя зьмены ў экономіцы мястэчак даволі цяжка адбіліся на становішчы яўрэйскай насельнасьці, якая займаецца пераважна гандлем і рамесьніцтвам. У зьвязку з гэтым становішчам Урад БССР першым узышоў на шлях надзяленьня зямлёй працоўных яўрэяў. Гэтае мерапрыйманьне дае выйсьцё незанятой рабочай сіле мястэчак.

Беларуская вёска з часу Кастрычнікаўскай Рэволюцыі вельмі значна зьмянілася. Зямляўпарадкаваньне і расьсяленьне, адбываючыся даволі шпарка, спрэс зьменьваюць надворны выгляд вёскі: замест зьбітых у кучу сёл з вузенькімі сядзібамі, замест хутароў сталыпінскага тыпу растуць і множацца невялічкія пасёлкі з правільнай забудоўкай; замест старадаўнага трохпольля ўсё больш і больш укараняецца шматпольле; саха, якая дватры годы перад гэтым была шырока распаўсюджана, цяпер амаль зусім зьнікла, замяніўшыся палепшанымі тыпамі плугоў; гатунковае насеньне для засеву, аб якім селянін да рэволюцыі нават ня чуў, разьбіраецца цяпер на расхват; вёска чула прыслухоўваецца да голасу агранома. Але разам з гэтым у вёсцы яшчэ вельмі моцны і старыя спосабы гаспадараваньня—у гадоўлі сенажацяй і жывёлы і ў хатных рамёслах. Гэтыя спосабы і прыёмы, якія захоўваюцца або з прычыны звыкласьці, або нястачы сродкаў у гаспадарцы для пераходу на палепшаныя формы гаспадараваньня, на шмат зьмяншаюць продукцыйнасьць працы ў сельскай гаспадарцы, зьмяншаюць яе мажлівую даходнасьць. Пры лепшым доглядзе сенажацяй, пры якасным палепшаньні гадоўлі жывёлы, пры некаторым абмашыненьні перапрацоўкі сельска-гаспадарчых прадуктаў магутнасьць сялянскай гаспадаркі падымецца на шмат вышай. Паступовае зьмяненьне спосабаў гаспадараваньня з аднячасным правядзеньнем грунтоўных мерапрыйманьняў у галіне ўпарадкаваньня зямельнай плошчы спрэс зьменіць лад сялянскай гаспадаркі і набудзе ёй невядомае ў мінулым разьвіцьцё.

## Савецкае будаўніцтва.

**Асновы констытуцыі БССР.** Беларуская Савецкая Соцыялістычная Рэспубліка політычна зьяўляецца самастойнай дзяржавай, у якой уся паўната ўлады належыць працоўным пад кіраўніцтвам рабочай клясы. З мэ-

тай больш поўнага забясьпечаньня палітычных і экономічных правоў і заваёваў працоўных, БССР уваходзіць у Саюз Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік, карыстаючыся ў ім правамі аднолькавымі з іншымі саюзнымі савецкімі рэспублікамі. Уваход і прабываньне ў Саюзе ССР зьяўляецца зусім вольным.

Вярхоўная ўлада працоўных у кіраваньні рэспублікай ажыцьцяўляецца цераз саветы: сельскія, местачковыя, гарадзкія, раённыя, акружныя і Ўсебеларускі Зьезд Саветаў. Усебеларускі Зьезд Саветаў зьяўляецца вярхоўным органам улады для ўсяе рэспублікі. Ім выбіраецца для бягучага кіраваньня, на час да наступнага зьезду саветаў, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт. Акружнымі і раённымі зьездамі саветаў выбіраюцца акружныя і раённыя выканаўчыя камітэты, якія ад аднаго да другога зьездаў саветаў зьяўляюцца вышэйшымі органамі ўлады ў межах акругі або раёну.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт зьяўляецца вышэйшым законадаўчым і распарадчым органам улады ад аднаго да другога ўсебеларускіх зьездаў саветаў. Ен выбірае са свайго складу прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савет Народных Камісараў, на які ўскладаецца, у часе паміж сэсій ЦВК, уся работа па кіраваньні рэспублікай і законадаўству. Для кіраўніцтва асобнымі галінамі гаспадаркі і кіраваньня Цэнтральны Выканаўчы Камітэт выбірае народных камісараў, якія кіруюць асобнымі народнымі камісарыятамі. Народныя камісарыяты падзяляюцца на аб'яднаныя і неаб'яднаныя. Да аб'яднаных належаць тыя з іх, якія ў сваёй дзейнасьці падначальваюцца непасрэдна Ўраду БССР і адказваюць перад агульна-саюзнымі народнымі камісарыятамі; такімі камісарыятамі зьяўляюцца: Працы, Грашовых Спраў, Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі, Унутранога Гандлю і Вышэйшы Савет Народнай Гаспадаркі. Неаб'яднаныя камісарыяты ня маюць сваіх агульна-саюзных цэнтраў і цалком падначальваюцца Цэнтральнаму Выканаўчаму Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР. Такімі камісарыятамі зьяўляюцца: Зямляробства, Унутраных Спраў, Юстыцыі, Народнай Асьветы, Аховы Здароўя і Соцыяльнай забясьпекі.

**Нацыянальн. проблема і становішча нацыянальн. меншасьцяй.** Аднэю з галоўнейшых асаблівасьцяй констытуцыі Беларускае ССР, як і кожнай іншай савецкай рэспублікі, зьяўляецца дача яе грамадзянам аднолькавых правоў незалежна ад іх нацыянальнасьці. Толькі Савецкі лад дзяржавы, які забясьпечвае сапраўдную абарону і гарантыю правоў усіх народаў, што ўваходзяць у склад гэтай дзяржавы, стаўляе сабе задачу залучэньня працоўных у справу соцыялістычнага будаўніцтва. Гэта агульная для ўсіх саюзных савецкіх соцыялістычных рэспублік задача зьяўляецца асабліва важнай у тых выпадках, калі ўтварэньне савецкай дзяржавы

адбываецца на тэрыторыі, залюдненай народнасьцямі, якія перад тым былі нацыянальна прыгнечаны. Будаўніцтва Беларускае ССР адбываецца якраз у такіх умовах. Савецкае будаўніцтва ў БССР у значнай ступені зьяўляецца загэтым і справай нацыянальнага будаўніцтва.

Асобныя народнасьці, якія залюдняюць БССР, могуць ажыцьцяўляць свае правы цалком толькі шляхам свайго ўдзелу ў будаўніцтве ўсяе дзяржавы. Гэты ўдзел, з цягам часу, робіцца ўсё больш поўным, бо політыка Ураду БССР накіравана ў бок мажліва поўнага залучэньня ўсіх працоўных у дзяржаўнае будаўніцтва. Разам з тым і дзяржаўны апарат дапасоўваецца так, каб ён быў блізкі да насельнасьці па мове, адказваў-бы яго патрэбам. Па гэтай прычыне ва ўсіх органах улады, ад Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту да сельскіх саветаў, ёсьць прадстаўнікі ад усіх нацыянальнасьцяй. У мінулым годзе організавана 22 нацыянальных сельскіх саветы ў тых мясцох, дзе небеларуская насельнасьць складае большасьць; дзяржаўныя ўстановы паступова пераводзяцца на беларускую мову—у першую чаргу тыя, якія паводле характару свае дзейнасьці бліжэй стыкаюцца з насельнасьцю (ЦВК, СНК, акружвыканкомы, выдавецтва, культурна-асьветныя ўстановы і гэт. д.). Судовыя органы таксама беларусізуюцца і, разам з гэтым, утвараюцца спэцыяльныя народныя суды з судаводзтвам на мове нацыянальных меншасьцяй. Усе ніжэйшыя школы соцыяльнага выхаваньня пераведзены на родную мову вучняў; канчаецца і перавод сямілетак. Такім чынам, шляхам сапраўднага ўдзелу прадстаўнікоў кожнай нацыянальнасьці ў органах дзяржаўнага кіраваньня, шляхам нацыянальнай школы, суда і дзяржаўнага апарату вырашаецца проблема культурна-нацыянальнага і экономічнага разьвіцьця ўсіх народнасьцяй без падзелу іх на „перадавых“ і „заняпалых“.

Экономічнае становішча нацыянальных меншасьцяй, якія жывуць у БССР, нічым ня розьніцца ад становішча асноўнай нацыянальнасьці—беларусоў. Велікарусы, украінцы, палякі, латышы, татары, якія займаюцца сельскай гаспадаркай, знаходзяцца ў аднолькавых з беларусамі ўмовах зямлякарыстаньня і дапамогі з боку дзяржавы. Некалькі іншае становішча яўрэяў, якія паводле законаў імпэрыі ня мелі права на ўладаньне зямлёй. Прымушаныя займацца незямляробнымі промысламі і гандлем яўрэі ў шмат якіх выпадках знаходзяцца цяпер у горшым становішчы, чымся іншыя народнасьці. З прычыны гэтага ў апошні час разьвінаецца надзяленьне працоўных яўрэяў зямлёю, каб такім парадкам даць ім сродкі для існаваньня. Камісія і таварыства (общество) па зямляўпарадкаваньні працоўных яўрэяў працуе напружана. За 1924—25 год організавана 79 колектываў і 7 пасёлкаў з яўрэяў зямляробаў па плошчы 9.633 дзесяц. Работы па гэтай галіне будуцьісьці і ў бліжэйшыя

годы. У дачыненьні-ж да рамесьнікаў і саматужнікаў яўрэяў— толькі-што яшчэ пачата організацыйная работа. Засноўваюцца іх аб'яднаньні і саюзы, якія бяруць на сябе экономічную дапамогу сваім сябром. Такім парадкам, мерапрыйманьнямі ўраду, пры падтрыманьні грамадзкасьці, зьнішчаецца адна з найбольш цяжкіх спадчын царызму—вырашаецца, так званае, „яўрэйскае пытаньне".

**Б ю д ж э т.** Беларуская ССР, як саюзная рэспубліка, карыстаецца бюджэтнымі правамі, вызначанымі палажэньнем 29 кастрычніка 1924 году. Паводле гэтага полажэньня, Цэнтральнаму Выканаўчаму Камітэту Саветаў і Савету Народных Камісараў БССР належыць права пацьвярджэньня, у межах агульна-саюзнага бюджэтнага законадаўства, законапалажэньняў аб бюджэце БССР. Цэнтральны Выканаўчы Камітэт пацьвярджае дзяржаўны бюджэт рэспублікі і падае яго Саюзнаму ўраду для ўпісаньня ў адзіны бюджэт Саюзу ССР.

Дзяржаўны бюджэт БССР, без залічэньня ў яго даходаў і выдаткаў па агульна-саюзных ведамствах (Народны Камісарыят Шляхоў Зносін, Народны Камісарыят Пошты і Тэлеграфу, Народны Камісарыят Ваенных Спраў, Народны Камісарыят Замежных Спраў, Народны Камісарыят Замежнага Гандлю) за 1924—25 год выпаўнены, мае такую пабудову (у рублёх):

**1924—1925 год**

| ДАХОДЫ: | | ВЫДАТКІ: | |
|---|---|---|---|
| Падатковыя | 6.034.997 | Аб'яднан. наркаматы | 2.072.838,5 |
| Непадатковыя | 3.802.540,5 | Неаб'яднаныя | 6.863.988,5 |
| Надзвычайныя | 38.470,5 | Фонды | 3.549.892 |
| Дэфіцыт | 3.395.655 | Надзв. расходы | 784.944 |
| Усяго | 13.271.663 | Усяго | 13.271.663 |

**1925—1926 год**

| ДАХОДЫ: | | ВЫДАТКІ: | |
|---|---|---|---|
| Падатковыя | 13.064.259 | Аб'яднан. наркаматы | 2.247.606 |
| Непадатковыя | 11.638.203 | Неаб'яднаныя | 14.456.438 |
| Надзвычайныя | 10.700 | Фонды | 13.319.515 |
| Дэфіцыт | 11.283.397 | Надзвыч. расходы | 5.973.000 |
| Усяго | 35.996.559 | Усяго | 35.996.559 |

Такім чынам, бюджэт рэспублікі расьце вельмі хутка. У склад дзяржаўнага бюджэту 1925—26 году залічаны ў даходах і выдатках адлічэньні мясцоваму бюджэту ад дзяржаўных падаткаў і даходаў, якія па дзяржаўнаму бюджэту 1924—25 году не праводзіліся. Выключэньне іх з дзяржаўнага бюджэту 1925—26 году дае чысты дзяржаўны бюджэт у 28.447.484 руб.; агульная сума бюджэту павялічылася, такім чынам, параўнальна з 1924—25 годам на 114,5 %. Дэфіцыт пакрываецца сумамі з агульна-саюзнага бюджэту.

Што дачыняецца мясцовых бюджэтаў, то агульныя сумы іх па рэспубліцы, без зваротных сродкаў, на 1924—25 год, паводле выпаўненьня, а на 1925—26 год, паводле пабудовы, малююцца так:

| 1924—1925 год | | | |
|---|---|---|---|
| ДАХОДЫ: | | ВЫДАТКІ: | |
| Мясцовыя падаткі, зборы і даходы ад мясцовай гаспадаркі . . . . . | 5.222.061 | Кіраваньне, ахова парадку і законнасьці . . | 5.044.137 |
| Адлічэньні, накідкі да дзяржаўных даходаў і падаткаў | 10.318.348 | Культурн. расходы (асьвета, ахова здароўя, сацыяльная забясьпека) . | 8.048.657 |
| Надзвычайныя даходы . | 1.260.003 | Мясцов. гаспадарка (камунальн., дарож., сел.-гаспадарчая, ваен. вед.) | 3.760.117 |
| Субвэнцыя, цэлевыя дапамогі з дзярж. бюджэту і рэзэрв. фонду СНК . . | 2.143 096 | Надзвычайныя расходы | 1.993.437 |
| Іншыя пастupленьні . . | 650 412 | Астача на 1925—26 год | 747.572 |
| Усяго . . | 19.593.920 | Усяго . . | 19.593.920 |

| 1925—1926 год | | | |
|---|---|---|---|
| ДАХОДЫ: | | ВЫДАТКІ: | |
| Ад мясцовай гаспадаркі і мясцов. падаткаў і збораў | 7.269.039 | Кіраваньне, ахова парадку і законнасьці . | 5.423.597 |
| Адлічэньні, накідкі да дзяржаўных падаткаў і даходаў | 12.370.558 | Культурн. расходы (асьвета, ахова здароўя, сацыяльная забясьпека) . | 12.807.247 |
| Субвэнцыі, дапапамогі з дзяржаўнага бюджэту і фонду СНК . . . . . | 3.733.398 | Мясцов. гаспадарка (камун., прамысл., сельска-гаспад., дарож., ваен. вед.) | 4.592.256 |
| | | Надзвычайныя расходы | 1.282.738 |
| Іншыя даходы . . . . . | 1.330.707 | Іншыя расходы . . . | 597.864 |
| Усяго . . | 24.703.702 | Усяго . . | 24.703.702 |

З параўнаньня дзяржаўнага і мясцовага бюджэту вынікае, што апошні адстае ў сваім росьце ад першага, але і яго рост усё-такі даволі значны. У будове мясцовага бюджэту адбыліся

важныя зьмены: у 1925—26 годзе са складу мясцовага бюджэту выключана яго рэспубліканская частка і цяпер мясцовы бюджэт цалком падзяляецца на акружныя і раённыя бюджэты.

**Культурнае будаўніцтва БССР.** Побач з задачамі экономічнага адраджэньня рэспублікі, стаяць і задачы па ўздыму культуры ўсіх нацыянальнасьцяй, якія залюдняюць БССР. У заняпалай краіне, дзе па гістарычных прычынах ня створана было ў мінулым культурных каштоўнасьцяй, дзе цяжка было разьвівацца народнасьцям, экономічна і нацыянальна прыгнечаным, задачы культурнага будаўніцтва набываюць першараднае значэньне, бо бяз іх вырашэньня нельга чакаць хуткага зьдзяйсьненьня соцыялізму. Загэтым Урад БССР зьвяртае вельмі вялікую ўвагу на школьныя пытаньні, пытаньні пазашкольнай асьветы, выдавецтва, організаваньня грамадзка-культурных установ і гэт. д. Выдаткі на народную асьвету зьяўляюцца самымі значнымі як у дзяржаўным, гэтак і ў мясцовым бюджэце.

Галоўным пытаньнем у справе культурнага будаўніцтва зьяўляецца зьнішчэньне няпісьменнасьці. Паводле даных статыстыкі ў БССР на 1.000 насельнікаў прыпадае пісьменных толькі 327 чакавек. Гэтыя суадносіны амаль ня зьменьваюцца, бо хоць лік школ соцыяльнага выхаваньня і расьце, але дасюль школы ня могуць ахапіць усіх дзяцей школьнага ўзросту—ў іх навучаецца толькі 68 % дзяцей ва ўзросьце ад 8 да 11 год. Дзеці, што застаюцца па за сьценамі школы, папаўняюць склад няпісьменных. Загэтым, побач з задачай увядзеньня ўсеагульнага пачатковага навучаньня дзяцей, што павінна быць выпаўнена ў працягу 7—8 год, ставіцца задача зьнішчыць няпісьменнасьць сярод дарослых насельнікаў, прыкладна, у такі-ж час. Цяпер дзейнічае: школ сямілетак—237, чатырохлетак—4.042 і сеткавых пунктаў па зьнішчэньні няпісьменнасьці—584. Усіх настаўнікаў у школах соцыяльнага выхаваньня налічваецца 8.630 чал., вучняў—351.737 ч. Колькасьць школ і колькасьць вучняў павялічваецца вельмі хутка, хоць і неадпаведна з ростам запатрабаваньняў на школы. Цяпер школ нават менш, чым іх было ў 1921—22 годзе. Прычына скарачэньня—неабходнасьць падняць якасную пастаноўку навучальнай справы за рахунак колькасьці школ.

Сетка політыка-асьветных установ 1925—26 году, якія ўтрымліваюцца бюджэтам, наступная: бібліотэк—38, клюбаў—51, народных дамоў—95, хат-чыталянь—271, пунктаў па ліквідацыі няпісьменнасьці—554, вячэрніх школ для дарослых—21, вячэрніх школ для рабочай моладзі—14, савецкіх партыйных школ—2 і дамоў селяніна—12. Гэтая сетка таксама скарочана параўнальна з мінулым годам, з мэтай умацаваньня яе гаспадарчага становішча (выдаткі-ж па ўтрыманьні сеткі не скарочаны, а павялічаны).

Профэсыянальна-тэхнічная асьвета ў БССР, дзе наогул адчуваецца недахоп у падгатаванай рабочай і тэхнічнай сіле,— зусім новая галіна, апрача пэдагогічнай асьветы, якая ў дарэволюцыйны час мела даволі значнае разьвіцьцё. Профэсыянальна-тэхнічныя школы ўзьніклі толькі пры Савецкай уладзе, чаму і вынікі іх дзейнасьці яшчэ не пасьпелі выявіцца ў поўнай меры. З профэсыянальных школ у БССР ёсьць: пэдагогічных тэхнікумаў—10, сельска-гаспадарчых—6, мэдыцынскіх—2, коопэрацыйных—1, індустрыяльных—2, музычных—1 і мастацкіх—1; профэсыянальна-тэхнічных школ—24, сельска-гаспадарчых школ—5, школ фабзавуча—3, навучальных майстэрняў—7, трохмесячных сельска-гаспадарчых курсаў—10.

Найбольш важныя дасягненьні БССР мае ў галіне вышэйшай асьветы. Да Кастрычнікаўскай Рэволюцыі на тэрыторыі сучаснай БССР ня было ні аднэй вышэйшай школы, цяпер-жа іх ёсьць чатыры: Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт у Менску, Сельска-Гаспадарчая Акадэмія ў Горках, Вэтэрынарны Інстытут у Віцебску і Комуністычны Унівэрсытэт у Менску. Ва ўсіх гэтых вышэйшых школах налічваецца ў 1925—26 годзе 4.251 студэнт і 427 асоб акадэмічнага пэрсоналу.

Для ўсебаковага навуковага дасьледваньня багацьцяў Беларусі і для разьвіцьця нацыянальнай культуры заснован Інстытут Беларускай Культуры, які аб'яднаў вакол сябе буйныя сілы, якія організуюць навукова-дасьледчую работу па вывучэньні экономікі і культуры Беларусі. Польскім і яўрэйскім аддзеламі Інстытуту Беларускай Культуры вывучаецца культура польскага і яўрэйскага народаў у Беларусі. Такім чынам, побач з беларускай культурай разьвіваюцца культуры і іншых нацыянальнасьцяй, якія залюдняюць БССР.

**Профэсыянальн. саюзы.** Характар экономікі БССР, які зьмяшчаецца ў выключным панаваньні сельскай гаспадаркі над прамысловасьцю, адбіваецца і на складзе профэсыянальных саюзаў. Колькасьць сяброў індустрыяльных саюзаў на 1 кастрычніка 1925 году складала толькі 31,6 % усяго ліку сяброў профэсыянальных саюзаў. Склад профэсыянальных саюзаў на 1 кастрычніка 1925 году быў такім:

| КАТЭГОРЫЯ ПРАЦЫ | Лік сяброў профсаюзаў |
|---|---|
| Сельская гаспадарка . . . . . . . . . . . . . . . . . | 18.196 |
| Прамысловасьць . . . . . . . . . . . . . . . . . | 43.810 |
| Транспарт і сувязь . . . . . . . . . . . . . . . . | 23.072 |
| Супрац. дзярж. грамадзкіх і інш. установаў і прадпрыемстваў | 44.793 |
| Іншых . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 8.561 |
| Усяго . . . . . . | 138.432 |

Цяпер (сакавік месяц 1926 г.) агульная колькасьць сяброў профэсыянальных саюзаў, відавочна, вышэй памянёнага ліку на 1 кастрычніка 1925 году, бо адначасна з разьвіцьцём прамысловасьці і гандлю павялічаецца лік рабочых і служачых. Так, калі на 1 ліпеня 1924 году агульны лік сяброў профэсыянальных саюзаў дасягаў 114.726 чал., то на 1 кастрычніка 1924 г. гэты лік дайшоў да 116.385 чал., на 1 студзеня 1925 г.—да 122.725 і на 1 кастрычніка 1925 г.—да 138.432 чал.

Асабліва значнае павялічэньне сяброў профэсыянальных саюзаў па індустрыяльнай групе іх ідзе ў будаўнікоў (27,1 % за поўгода), мэталістых (26,2 %), харчавікаў (23,6 %) і ткачоў (19.4 %). Сярод нявытворчых саюзаў, сваім ростам вызначаецца саюз працаўнікоў народнага харчаваньня (22,2 % росту за поўгода). З асобных профэсыянальных саюзаў, паводле колькасьці сваіх сяброў (на 1 студзеня 1925 году), асабліва вызначаюцца: чыгуначнікі—19.043 чал., саюз савецкіх і гандлёвых служачых—17.636 ч., саюз працаўнікоў асьветы—14.505 чал. і саюз працаўнікоў зямлі і лесу—14.086 ч. З індустрыяльных саюзаў больш за 5.000 сяброў налічваюць толькі саюзы будаўнікоў, дрэваапрацоўшчыкаў і гарбароў.

Паводле полу, сябры ўсіх профэсыянальных саюзаў разьмяркоўваліся ў такім парадку:

| П О Л | На 1/х 1924 г. | На 1/х 1925 г. |
|---|---|---|
| Мужчын . . . . | 74,7 % | 76,9 % |
| Жанчын . . . . | 21,6 % | 23,1 % |
| Падросткаў асобных полаў . . . . | 3,7 % | (невядома) |

Жаночая праца асабліва выкарыстоўваецца ў справе народнага харчаваньня, аховы здароўя і народнай асьветы: у саюзе харчавікоў жанчыны складаюць 72 %, у саюзе мэдыцынскіх і санітарных працаўнікоў—62,1 %, у саюзе працаўнікоў асьветы—47,4 %. У прамысловасьці жаночая праца найбольш выкарыстоўваецца ў ткацкай, кравецкай, папяровай, хімічнай і друкарскай вытворчасьцях: у саюзе ткачоў жанчын налічваецца 58,1 %, у саюзе краўцоў—36,4 %, у саюзе папяровых працаўнікоў—22,9 %, і ў саюзе хімічных працаўнікоў—22,0 %.

Што дачыняецца падросткаў, то праца іх больш усяго ўжываецца ў прамысловасьці: у кравецкай вытворчасьці падросткі складаюць 20,5 % усіх сяброў саюзу, у гарбарнай—18,5 %, хімічнай—12,3 % і мэталёвай—11,8 %. У іншых індустрыяльных

саюзах лік падросткаў значна меншы (3—5 %). У нявытворчых профэсыях праца падросткаў выкарыстоўваецца зусім мала: колькасьць падросткаў у гэтых саюзах менш 1 % і выключэньне складае толькі саюз харчавікоў, у якім падросткаў налічваецца каля 12 %.

Паводле нацыянальнага складу сябры профэсыянальных саюзаў БССР на 1 кастрычніка 1925 году разьмяркоўваліся ў такім парадку (у процантах):

| Катэгорыя працы | Беларусы | Расійцы і украінцы | Яўрэі | Палякі | Іншыя |
|---|---|---|---|---|---|
| Сельская гаспадарка . . | 87,9 | 7,7 | 3,9 | 3,4 | 4,1 |
| Прамысловасьць . . . | 34,5 | 8,0 | 49,9 | 4,4 | 3,2 |
| Транспарт і сувязь . . | 74,2 | 10,9 | 7,6 | 3,1 | 4,2 |
| Працаўнікі дзяржаўных, грамадзк. і іншых устаноў і прадпрыемстваў | 56,5 | 10,1 | 27,5 | 3,0 | 2,9 |
| Іншыя . . . . . | 56,2 | 9,9 | 25,1 | 6,6 | 3,2 |
| Усяго . . . . | 55,1 | 9,2 | 28,1 | 3,9 | 4 |

Гэтыя даныя паказваюць, што ў сельскай гаспадарцы заняты пераважна рабочыя-беларусы, а ў прамысловасьці — яўрэі.

Далейшы рост профэсыянальных саюзаў, відавочна, будзе ісьці паводле разьвіцьця асаблівых галін гаспадаркі. Група саюзаў, сябры якіх абслугоўваюць органы кіраваньня, маюць і цяпер ужо замаруджаны тэмп росту колькасьці сяброў; наадварот, індустрыяльныя саюзы, а таксама саюзы, сябры якіх працуюць на культурнай ніве, разьвіваюцца ў дачыненьні колькасьці сяброў вельмі шпарка.

## Пэрспэктывы гаспадарчага і культурнага будаўніцтва БССР.

Прыродныя вытворчыя сілы БССР далёка яшчэ нескарыстаны ў поўнай меры і пры правільным іх скарыстаньні могуць у значнай ступени зьмяніць цяперашнія ўмовы эканамічнага становішча рэспублікі: агромністая колькасьць няўдоб-

ных зямель, як забалочаныя прасторы, пасьля іх мэліараваньня змогуць павялічыць агульны даход ад сельскай гаспадаркі на 80—90 міл. руб. і даць месца для расьсяленьня лішняй насельнасьці вёскі. Якраз гэтае меркаваньне кіруе Ўрадам БССР, які мэліарацыйна-асушальныя работы ставіць у грунт усяе сельска-гаспадарчае палітыкі. Упарадкаваньне-ж зямельнай плошчы, злучанае з ростам сельска-гаспадарчае вытворчасьці, пакладзе моцныя ўмовы для сельска-гаспадарчага разьвіцьця краіны.

Прамысловасьць БССР, якая разьвівалася ў даваенны час на прынцыпах лёгкай нажывы прадпрыемца, зусім ня думаўшага аб дапамозе разьвіцьцю ўсей сыстэмы гаспадаркі, далека не скарыстала ўсіх мажлівасьцяй для яе далейшага наступальнага руху. Сельская і лесавая гаспадаркі маюць такія запасы сырызны, якія не скарыстоўваюцца ў поўнай меры прамысловасьцю. Гэтыя запасы будуць павялічвацца паводле росту самой сельскай гаспадаркі. Загэтым разьвіцьцё і пабудова новых прадпрыемстваў, для перапрацоўкі мясцовай сырызны, мае цьвёрды грунт. Разьвіцьцё прамысловасьці будзе грунтавацца на базе электрафікацыі, для якое ёсьць агромністыя запасы торфу, а таксама сіла рэк.

Культурнае будаўніцтва рэспублікі, накіраванае да дзейнага ўдзелу рабоча-сялянскіх мас у соцыялістычным будаўніцтве краіны, пойдзе ў будучыне яшчэ больш паскораным тэмпам пры тэй увазе да гэтай справы, якую зьвяртае Ўрад БССР. Заснованыя ў мінулыя годы асяродкі савецкай культуры, ўвесь час узмацняюцца і растуць і ёсьць поўная падстава чакаць, што ў бліжэйшае пяцілецьце будзе аканчальна зьнішчана няпісьменнасьць, будзе ўведзена ўсеагульнае навучаньне і рэспубліка набудзе выстарчальны кадр культурных працаўнікоў.



# ЗЬМЕСТ

*Стар.*

**Агульныя даныя**



**Экономічнае становішча Беларускае С. С. Р.**



**Савецкае будаўніцтва**





